22 лістапада 2019 | № 43 (654)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Крывавы Хадж**
Стар. 9



# Выбараў няма. Але выбар — ёсць



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**На мінулым тыдні краіна перанесла хваробу, якая афіцыйна завецца выбарамі. І многія перажываюць пасля яе ўскладненні: кагосьці не адпускае галаўны боль і сусветнае расчараванне, у некага круціць пальцы ад падтасоўвання лічбаў у пратаколах, пячэ рукі ад укідаў бюлетэняў, а некага спальваюць згрызоты сумлення.**



Фота Уладзь Грыдзін, svaboda.org

Як бы ні было, наступствы ад «вакханаліі» адчуваюць усе, хто прама ці ўскосна браў у ёй удзел. Так, некалькі назіральнікаў вымушаныя былі звяртацца па медычную дапамогу наўпрост на выбарчых участках: у аднаго скокнуў ціск, у другой не вытрымалі нервы... З якімі праявамі «поствыбарчага сіндрому» сутыкнуліся чальцы камісій і галоўныя арганізатары гэтай ліхаманкі, сказаць цяжка, але і для іх яна не прайшла бясследна. Я асабіста ведаю чалавека, які быў сябрам камісіі, і пасля ўсяго, што адбылося, прызнаўся, што яму сорамна за ўдзел у гэтым.

Напачатку ён яшчэ спрабаваў апраўдвацца, што ў яго не было выбару — проста паставілі перад фактам. Яму не хацелася губляць працу ў сталым узросце, псаваць адносіны з кіраўніцтвам... Але, паслухайце, хіба пра адсутнасць выбару тут гаворка? Для мяне ў гэтай сітуацыі выбар якраз відавочны — нежаданне супраціўляцца і змагацца за свае правы.

Хіба шмат знойдзецца злодзеяў, якія прызнаюцца, што рабілі злачынствы дзеля самога злачынства? Часцей за ўсё злачынцы знаходзяць сабе апраўданне, спасылаючца на абставіны... Хіба большасць даносаў на сяброў і суседзяў у 1930-х гадах пісалі проста дзеля таго, каб ім нашкодзіць? Не, даносчыкі хацелі адвесці бяду ад сябе. Ну і заадно завалодаць суседскім дабром — усё адно ж прападзе.

Канешне, мяне можна папракнуць у занадта жорсткіх параўнаннях. Але, па-першае, якая розніца, пад які артыкул Крымінальнага кодэкса трапляе злачынства? Яно ўсё адно застаецца злачынствам. Па-другое, ніхто не ў стане даць адказ, на што можа пайсці чалавек, прыціснуты страхам. Сёння ён фальсіфікуе выбары, а заўтра можа пайсці пісаць даносы.

Менавіта страх — тое пачуццё, якое ў нас узрошчвалі не адно пакаленне і ад якога мы так і не здолелі пазбавіцца, жывучы ў незалежнай краіне. Ад таго і «выбары», і шмат якія яшчэ працэсы ў нашай дзяржаве з году ў год адбываюцца па нязменным сцэнары. Страх згубіць нагрэтае месца і добры заробак прымушае людзей марнаваць жыццё на ненавіснай працы. Страх застацца ў адзіноце прымушае жанчын цярпець хатні гвалт. Страх быць раструшчаным сістэмай прымушае моўчкі парушаць закон дзеля ўмацавання гэтай сістэмы. І самае непрыемнае, калі ўзнікае стакгольмскі сіндром, і ахвяры пачынаюць апраўдваць сваіх катаў.

Вось толькі парадокс у тым, што той, хто баіцца, прайграе пры любым раскладзе. Сістэма ўсё гэтак жа будзе падмінаць баязліўца пад сябе, гвалтаўнік усё гэтак жа будзе чыніць здзек з маўклівай ахвяры, працадаўца будзе пагарджаць працаўніком, які баіцца заявіць пра свае правы.

Бо навошта нешта мяняць, калі ўсіх усё задавальняе?

Але, як пісаў Караткевіч, Бог даў беларусу дзюбу не для таго, каб ён пішчаў. І, пагатоў, галава дадзеная кожнаму з нас не толькі для таго, каб насіць капялюш і пры нагодзе хаваць яе ў пясок. А перадусім — каб думаць і рабіць выбар. Бо нават калі ў краіне няма сапраўдных выбараў як формы ўдзелу грамадзян у грамадска-палітычным жыцці дзяржавы, кожны ў стане зрабіць выбар для сябе: баяцца ці не, казаць праўду ці маўчаць, удзельнічаць у злачынстве ці выкрываць яго, заставацца сумленным чалавекам ці пераходзіць на бок пануючага зла.

Ёсць усяго некалькі выпадкаў, калі можна казаць пра адсутнасць выбару: калі пазбаўлены розуму і дзеяздольнасці ці калі знаходзішся ў магіле. Але ж нас з вамі гэта не тычыцца?

# Кошт Шэнгену хутка знізіцца?

**Еўрасаюз гатовы падпісаць пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму з Беларуссю. 18 лістапада ў Афіцыйным часопісе Еўрапейскага саюза апублікавана рашэнне Савета ЕС ад 14 лістапада.**

«Падпісанне ад імя ЕС пагаднення аб спрашчэнні выдачы візаў паміж Еўрапейскім саюзам і Беларуссю з гэтага моманту дазволена, як толькі будзе завершана падрыхтоўка яго тэксту, — гаворыцца ў дакуменце. — Тэкст пагаднення будзе апублікаваны разам з афіцыйным рашэннем пра яго заключэнне».

У кастрычніку кіраўнік Прадстаўніцтва ЕС у нашай краіне Дзірк Шубель заявіў, што вынікі парламенцкіх выбараў у Беларусі не паўплываюць на падпісанне пагаднення аб спрашчэнні візавага рэжыму. Як вядома, у Палаце прадстаўнікоў не будзе апазіцыянераў (у ацэнцы вынікаў выбараў ЕС будзе арыентавацца на ацэнку БДІПЧ АБСЕ). Шэнгенская віза для беларускіх грамадзян будзе каштаваць 35 еўра замест цяперашніх 60. Паводле слоў Шубеля, затрымка з падпісаннем пагаднення звязаная з больш складанай працэдурай з боку Еўрасаюза.

**Паводле «Еўрарадыё»**

# Універсітэт імя Гілевіча звернецца па ліцэнзію на навучанне

**Рэктарат прыватнага Універсітэта імя Ніла Гілевіча, заснаванага Таварыствам беларускай мовы, плануе падаць у Мінадукацыі дакументы для атрымання ліцэнзіі на навучанне па спецыяльнасці «Культуралогія».**

Кіраўніцтва ВНУ 17 ліпеня падало на экспертызу вучэбна-метадычнай рады пры Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў (БДУКМ) распрацаваныя планы навучання і метадычныя комплексы па вучэбных профілях «паланістыка» і «германістыка» ў рамках спецыяльнасці «Культуралогія».

Савет БДУКМ вынес станоўчае заключэнне па прааналізаваных дакументах. «Цяпер у нас ёсць рэкамендацыя адкрываць спецыяльнасць «Культуралогія», — сказала старшыня ТБМ Алена Анісім. — Такім чынам, па адной спецыяльнасці першы крок ужо зроблены. Зараз трэба рухацца далей».

Анісім адзначыла, што аналагічная экспертная рада пры Белдзяржуніверсітэце раней вынесла шэраг заўваг адносна вучэбна-метадычных комплексаў па спецыяльнасцях «Музейная справа, ахова помнікаў, турызм», «Літаратурны і мастацкі пераклад», «Інфарматыка, вэб-дызайн і камп'ютарныя тэхналогіі». «Па іх ёсць дробныя заўвагі. Іх трэба выправіць, падаць дакументы зноў — і, думаю, рада схіліцца ў наш бок», — заявіла старшыня ТБМ.

Раней выканаўца абавязкаў рэктара ВНУ ганаровы старшыня ТБМ Алег Трусаў казаў, што калі ліцэнзіі Мінадукацыі па згаданых спецыяльнасцях удасца атрымаць да 1 сакавіка 2020 года, летам універсітэт правядзе набор студэнтаў, якія пачнуць навучаць з верасня.

**Паводле БелаПАН**

# АБФФ супраць нацыянальных сімвалаў?

**Беларуская футбольная федэрацыя чарговы раз выступіла супраць нацыянальных сімвалаў, якія выкарыстоўваюць заўзятары на гульнях беларускай зборнай.**

Гаворка ідзе пра матч Германія–Беларусь, які адбыўся 16 лістапада і скончыўся для беларусаў разгромным лікам 4:0. Як паведамляе тэлеграм-канал «Родны футбол», беларускія фанаты, якія прыехалі падтрымаць сваю каманду, сутыкнуліся з праблемай — іх не дапускалі на стадыён з нацыянальнай сімволікай.

Сцюарды і супрацоўнікі федэрацыі футбола Германіі аргументавалі свае дзеянні лістом з АБФФ, які быў падпісаны старшынёй федэрацыі Уладзімірам Базанавым, з просьбай не дапускаць на стадыён заўзятараў з бела-чырвона-белымі сцягамі, а на атрыбутыку з выявай «Пагоні» звярнуць асаблівую ўвагу.

Сітуацыя не новая і паўтараецца не першы раз. Тыя, хто бывае на выязных гульнях беларускай зборнай, пэўна, ужо сутыкаліся з ёй хаця б раз. Што праўда, варта адзначыць, што ўсе захады немцаў апынуліся марнымі, паколькі беларускія фанаты прынеслі на трыбуны свае сцягі і банеры і яскрава аздобілі ўласны сектар.

**Паводле budzma.by**

# «Барабашкі», начны зрок і законы фізікі

Сяргей ПУЛЬША

**Усё ж такі беларускія выбары — гэта не толькі «вакханалія». На іх адбываецца нямала пацешнага — з-за такіх момантаў, напэўна, кіраўнік краіны і казаў, што выбарчая кампанія ў нас «не сумная».**

Традыцыйна ў гэты перыяд у краіне парушаюцца законы фізікі, праяўляе сваю прысутнасць нячыстая сіла, а сябры выбарчых камісій выяўляюць нечалавечыя здольнасці. Мы сабралі некалькі такіх фактаў.

Анамальны выпадак быў зафіксаваны ў Гродне. Як сцвярджае назіральнік Сяргей Верамеенка, да 13 лістапада дзяржаўны сцяг на выбарчым участку побач са скрыняй для галасавання быў павешаны дагары нагамі. Верамеенка і назіральнік «Вясны» Ігар Дзячкоў прысутнічалі пры апячатванні памяшкання ўвечары 12 лістапада. Пры адкрыцці памяшкання раніцай 13 лістапада прысутнічаў Ігар Дзячкоў. І раніцай сцяг ужо вісеў «як трэба». Старшыня і чальцы камісіі не змаглі растлумачыць, як такое магло адбыцца, хто і на якой падставе меў доступ у запячатанае памяшканне, дзе знаходзілася скрыня для галасавання.

А што тут тлумачыць? Трэба выклікаць паляўнічых за прывідамі!

Праваабаронца Андрэй Стрыжак быў назіральнікам на ўчастку ў Гомелі. На гэтым участку было тры скрыні «хатняга» галасавання. Пакідалі яны ўчастак у суправаджэнні двух чальцоў камісіі па некалькі разоў. У выніку такім чынам «прагаласавалі» 523 (!!!) выбаршчыкі. «Улічваючы, што са скрынямі па хатах пайшлі ў раёне 10.00 гадзін раніцы, а з апошняй скрыняй вярнуліся бліжэй да канца галасавання, мы маем простую формулу: 10 гадзін = 600 хвілін / 523 выбаршчыкі = 1,15 хвіліны на кожнага выбаршчыка», — палічыў Стрыжак.

Беларусы, напэўна, вынайшлі тэлепартацыю. Але пакуль яна працуе толькі для чальцоў выбарчых камісій.

На адным з участкаў Брэста назіральнік зафіксаваў, што сябры камісіі перад падлікам галасоў ускрылі адначасова скрыні датэрміновага і асноўнага галасавання і высыпалі бюлетэні ў агульную кучу. Згодна з Выбарчым кодэксам, кожны від галасавання падлічваецца асобна, лічбы па іх запісваюцца ў выніковы пратакол асобна.

Назіральнік звярнуў увагу старшыні камісіі на грубае парушэнне, якое не дазволіць праверыць колькасць тых, хто прагаласаваў датэрмінова і ў асноўны дзень. Той усклікнуў: «Блін, што ж я нарабіў!» А затым сказаў загадкавую фразу: «Добра... Будзем тады мінусаваць. Па пратаколе. Зараз будзем агульны падлік рабіць. І датэрміновае». Што, ад чаго, і па якім пратаколе ён збіраўся мінусаваць, а таксама якім чынам камісія ў выніку змагла запоўніць выніковы пратакол, невядома.

Тэлепатыя — таксама досыць карысная ўласцівасць для старшыні выбарчай камісіі.

У Калінкавічах на выбарчы ўчастак прыйшлі муж і жонка. У ведамасці атрымання бюлетэняў за мужа — Леаніда Станько — ужо стаяў подпіс: быццам бы ён ужо прыходзіў на датэрміновае галасаванне і прагаласаваў. А ён не прыходзіў.

Хутчэй за ўсё, у дзень датэрміновага галасавання Леанід Станько бачыў іншапланецянаў. Да яго з'явіліся «людзі ў чорным» — і сцерлі яму памяць.

Ваенны пенсіянер з Брэста Аляксандр Мельнік ужо пяты раз удзельнічае ў выбарчых кампаніях. Але пераможцам ён так ні разу і не стаў. Тым не менш, гэта дазволіла яму прысутнічаць падчас падліку галасоў на адным з выбарчых участкаў. На гэтым участку над сталом падліку галасоў віселі чатыры жырандолі. У кожнай з іх было па чатыры лямпачкі. Да канца галасавання ў кожнай жырандолі гарэла роўна па адной. Мельнік спытаў, чаму астатнія не гараць, на што атрымаў адказ: «Перагарэлі, а замяніць няма каму». Галасы лічылі ў паўзмроку.

Паколькі прыбораў начнога бачання ў сябраў камісіі заўважана не было, асмелімся выказаць здагадку пра дзіўны прагрэс у афтальмалогіі, што на парадак паляпшае начны зрок чалавека.

Шкада, што ўсе гэтыя вынаходніцтвы чамусьці не атрымліваецца паставіць на службу народнай гаспадаркі краіны. А то б мы былі самай перадавой краінай свету!

# Усе мілыя і добрыя...

Марына БЯЛОВА

**Добрыя і спагадлівыя людзі — наша самая вялікая праблема. І калі кажуць, што беларусамі рухае страх, і таму яны пакорліва ідуць датэрмінова галасаваць на ўчасткі ці ж па ўказцы вышэйшага начальства ўкідваюць бюлетэні і малююць лічбы ў пратаколах, мне хочацца запярэчыць.**

Гэта не страх прымушае студэнтаў і работнікаў дзяржпрадпрыемстваў цягнуцца чаргой да скрыняў датэрміновага галасавання. І нават не апатыя да таго, што адбываецца, — маўляў, і так намалююць, колькі трэба. Часцей за ўсё гэты выбарчае бязмежжа адбываецца менавіта таму, што навокал суцэльна мілыя, добрыя і безадмоўныя людзі.

Узгадайце, як пачалі цкаваць дзяўчыну аднакурснікі, калі яна выклала відэа, дзе педагог просіць студэнтаў прагаласаваць датэрмінова. Яе папракалі ў тым, што яна падставіла добрага чалавека. Дый сама студэнтка апраўдвалася, бо толькі хацела паказаць, што «выкладчыца на самай справе не вінаватая, не яна гэта прыдумала». Ясная справа — добры чалавек, якому студэнты проста не змаглі адмовіць.

Мне падаецца, што і сама педагог раней прасякласся праблемамі свайго кіраўніцтва, якое таксама, напэўна, было мілым, калі прасіла дапамогі ў арганізацыі датэрміновых выбараў.

Так і атрымліваецца: адны мілыя і добрыя людзі просяць іншых мілых і добрых, тыя — трэцік, і так па ланцужку — аж да самага верху. Ніхто нікога не хоча падстаўляць, усе хочуць быць спагадлівымі. Ужо потым да гэтага дадаецца апатыя (маўляў, ні на што гэта не ўплывае, а так хоць дапамаглі добраму чалавеку) або страх (праўда, часцей не за сябе, а за тое, што добрага чалавека пакарае хтосьці нядобры).

Вы думаеце, дзяўчына ў Брэсце, якую незалежны назіральнік западозрыў ва ўкідванні бюлетэняў, прыйшла на ўчастак з-за пагрозаў начальніцы, якая аказалася яшчэ і кіраўніком выбарчай камісіі? Думаю, яе таксама вялі туды самыя што ні на ёсць высакародныя пачуцці ўзаемадапамогі: плюсік у карму ды прэмія нікому ніколі не перашкодзяць.

Вось так і жывем — сярод мілых і безадмоўных людзей. І нават не задумваемся, што рукамі гэтых добрых людзей дзеецца вялікае злачынства, якое ставіць пад пагрозу ўсю нашу будучыню.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Гэта песня добрая, пачынай спачатку

Сяргей САЛАЎЁЎ




Фота www.youtube.com

**«На храна нам такі саюз», — эмацыйна выказаўся Аляксандр Рыгоравіч на перадвыбарчым участку. І сапраўды, пакуль інтэграцыйныя пытанні нават тэхнічна выглядаюць недапрацаванымі. Да планаванага падпісання дакументаў — 8 снежня — засталося два тыдні. А ў нас яшчэ шмат што не гатова.**

Пакуль сінявокая перабывала ў «выбарчай вакханаліі», прэм'еры Расіі і Беларусі спрабавалі ўтрэсці спрэчныя пытанні па «дарожных картах» інтэграцыі дзвюх краін. Звонку ўсё выглядае стабільна. Па словах Румаса, бакі ўзгаднілі не менш за 20 «дарожных карт» з 31. Па тым, што не ўзгоднена, «не менш за палову атрымалася прывесці да кансэнсусу». Пры гэтым беларускі прэм'ер адзначыў, што «засталіся складаныя пытанні, па якіх не ўдалося знайсці сёння развязку». «Мы дакладна разумеем, дзе ў нас засталіся разыходжанні. Мы ўзялі прыкладна тыдзень тэрміну, каб іх яшчэ раз абмеркаваць, і далей гэты пакет дакументаў з рознымі пазіцыямі бакоў будзе ўнесены на разгляд кіраўнікоў дзяржаваў», — сказаў на заканчэнне Румас.

Бачыце рыторыку? «Не менш за 20 "дарожных карт"». «Не менш за палову прывялі да кансэнсусу». «Дакумент будзе ўнесены на разгляд». Такое ўражанне, што Румас сам не ведае, колькі дакументаў канкрэтна ўзгоднена, колькі прапрацавана і дамоўлена, і колькі пытанняў засталося на долю кіраўнікоў Расіі і Беларусі.

Не менш супярэчлівым быў і кіраўнік ураду Расіі Дзмітрый Мядзведзеў. Ён таксама адзначыў плённасць працы і перамоваў — а як жа інакш, калі працаваў ён сам. «Пазіцыі літаральна кожны дзень зближаюцца. Мы скончылі на тым, што нашы калегі самым бліжэйшым часам — літаральна за гэты тыдзень — падрыхтуюць новыя версіі "дарожных карт", дзе будуць зведзены вынікі сённяшняй працы. І вось ужо на базе гэтых новых версій мы правядзем яшчэ адно абмеркаванне», — сказаў Мядзведзеў, адзначыўшы, што гаворка ідзе як пра перамовы паміж профільнымі міністрамі, так і пра тэлефонныя званкі — ці, калі спатрэбіцца, сустрэчы — паміж прэм'ер-міністрамі.

Мядзведзеву, канешне, добра — сказаў, што сказаў. А нам зараз думай, якія «новыя версіі "дарожных карт"» будуць падрыхтаваныя? Гэта тычыцца толькі тых, па якіх не знайшлі паразумення, альбо гэта версіі ўсіх агулам «дарожных карт», над якімі працавалі-працавалі, дый так і не выпрацавалі?

Расійскі прэм'ер пацвердзіў тое, што казаў Румас: «Дзесьці рознагалоссі, якія захоўваюцца, носяць выключна тэхнічны характар і могуць быць ліквідаваныя за кошт акуратнай, уважлівай работы нашых урадаў. А дзесьці гэта досыць сур'ёзныя пытанні і разыходжанні ў падыходах, якія можна будзе ўрэгуляваць менавіта ў фармаце абмеркавання паміж двума кіраўнікамі дзяржаў, але, вядома, з удзелам урадаў дзвюх краін», — удакладніў ён.

Гэта азначае, што падпісанню дакументаў 8 снежня (яшчэ раз нагадаю — праз два тыдні) павінна папярэднічаць не толькі яшчэ адна сустрэча прэм'ераў дзвюх краін, але і сустрэча кіраўнікоў Расіі і Беларусі. Каб тыя ўрэгулявалі «разыходжанні ў падыходах» на сваім узроўні, далі загад урадам выпрацаваць дакументы ў залежнасці ад вынікаў іх сустрэчы, потым падрыхтаваць іх для падпісання, і...

Ці паспеюць за два тыдні? Падаецца, гэта вельмі сціслы тэрмін. А падпісваць 8 снежня частку «дарожных карт» будзе нязручна і недарэчна. Па-першае, дакументы, выпрацаваныя пазней, могуць супярэчыць дакументам, падпісаным раней. Па-другое, з вялікага паспеху наробіш смеху. Аднойчы, 20 гадоў таму, Лукашэнка ўжо падпісаў не вельмі прапрацаваны варыянт інтэграцыі, якім яго зараз прыціснулі да сцяны. Але тады ён быў малады, гарачы і меціў на крамлёўскі трон. Зараз ён ужо не той, дый вышэйшая пасада ў Крамлі яму не свеціць.

Тое, што пакуль ніякіх істотных «прасоўванняў у інтэграцыі» не адбылося, бачна з яшчэ аднаго дакументу. На тыдні Палата прадстаўнікоў (яшчэ старая) прыняла ў першым чытанні варыянт бюджэту Беларусі на 2020 год. Упершыню за шэсць гадоў бюджэт будзе дэфіцытным (995,1 мільёна рублёў, 0,7% ВУП), але Мінфін запэўнівае, што яго сацыяльная арыентацыя захаваецца.

Першы намеснік міністра фінансаў Юрый Селівёрстаў, які прадстаўляў законапраект, адзначыў, што бюджэт традыцыйна разлічаны па базавым сцэнары развіцця эканомікі: прырост ВУП закладзены на ўзроўні 1,9%, інфляцыя — 5%, стаўка рэфінансавання — 9,5%, кошт нафты — 60 долараў за барэль. Сярод фактараў, якія негатыўна паўплываюць на даходы бюджэту, адзначана нарастанне ўплыву расійскага падатковага манеўру (537 мільёнаў рублёў), спыненне «ператаможкі» расійскай нафты (мінус 951 мільён рублёў), рост коштаў на газ, зніжэнне паступленняў ад экспарту калійных угнаенняў.

Праўда, у той час, як «прадстаўнікі народа» абмяркоўвалі бюджэт на будучы год са стаўкай рэфінансавання ў 9,5%, Нацбанк знізіў гэтую стаўку да 9%. Падаецца, распрацоўшчыкі галоўнага фінансавага дакумента краіны ўвогуле не ведаюць, што творыцца ў іх профільных сферах. Але гэта іншае пытанне.

На пагашэнне і абслугоўванне дзярждоўгу (гэта — адзін з прыярытэтаў бюджэту–2020) будзе накіравана 8,7 мільярда рублёў. Толькі абслугоўванне даўгоў абыдзецца ў 2,7 мільярда рублёў. Пры гэтым Мінфін плануе на будучы год незвязаныя запазычанні на 1,950 мільярда долараў за кошт размяшчэння аблігацый на знешнім (1,350 мільярда долараў) і ўнутраным (600 мільёнаў долараў) фінансавых рынках. Гэтыя грошы пойдуць на пагашэнне даўгоў. На гэта ж пойдуць рэшткі сродкаў бюджэту–2019 (1,1 мільярда рублёў) і вернутыя прадпрыемствамі крэдыты (525,3 мільёна рублёў).

То-бок, беларускі бюджэт у «інтэграцыйным» складніку распрацаваны з таго меркавання, што нічога ў стасунках з Расіяй не зменіцца. Наш «стратэгічны партнёр» і «надзейны саюзнік» не скасуе свае «падатковыя манеўры», не працягне падтрымку беларускай эканомікі, не дасць новых крэдытаў, і нават падвысіць кошт газу! Атрымліваецца, ужо зараз мы рыхтуемся да таго, што падпісаныя (ці не падпісаныя) Пуціным і Лукашэнкам 8 снежня дакументы ніяк не паўплываюць на нашае эканамічнае становішча і дабрабыт. А бясконцая песня пра інтэграцыю будзе гучаць яшчэ доўгі час.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Аляксандр Латышаў



**«Малады фронт» паведаміў у Telegram-канале пра знікненне сябра арганізацыі Аляксандра Латышава. Палітык Павал Севярынец напісаў у Facebook, што малады чалавек знік 15 лістапада на беларуска-ўкраінскай мяжы.**

Дзмітрый Маракоў, сябра Латышава, сказаў, што апошні «раней вучыўся ў Польшчы, потым вярнуўся ў Беларусь, каб вырашыць асабістыя праблемы. У верасні яго выклікалі ў ваенкамат, каб прызваць у войска. 15 лістапада Латышаў мне паведаміў, што плануе паехаць ва Украіну, адтуль — у Польшчу. І больш не выходзіць на сувязь», — сказаў Маракоў.

Былы сябра «Маладога фронту» Андрусь Цянюта сцвярджае, што ў верасні ў ваенкамаце Латышава «чакаў супрацоўнік КДБ». 20 лістапада Павел Севярынец паведаміў, што з ім звязаўся бацька Латышава — нібыта, маладзён у ваенкамаце, і хутка яго адправяць служыць у Віцебск. Але ў палітыка застаюцца пытанні: дзе быў малады чалавек пяць дзён і чаму ён не выходзіў на сувязь з сябрамі і роднымі.

У 2014 годзе Латышава адпраўлялі на псіхіятрычную экспертызу «ў сувязі з удзелам у партыі "Малады фронт"» — менавіта так было напісана ў накіраванні ад жлобінскіх лекараў. У Гомельскім абласным псіхіятрычным шпіталі адхіленняў у яго не знайшлі.

## Дзмітрый Паліенка



**Пракурор перадумаў апратэстоўваць прысуд былому палітвязню. «Апеляцыйны пратэст, які быў пададзены на прысуд Мінскага гарадскога суда, пракурорам адкліканы», — паведаміў Паліенка.**

Нагадаем, што Паліенку прызналі вінаватым у асабліва злосным хуліганстве, яму вынеслі прысуд — 3 гады хатняй хіміі (абмежаванне волі без накіравання ў папраўчую ўстанову). Год яму «скінулі» па амністыі, але прызначылі прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

Тыдзень таму стала вядома, што пракуратура Мінска абскардзіла рашэнне Мінскага гарадскога суда ў Вярхоўны суд. У апеляцыйным пратэсце гаварылася, што прысуд Паліенку «з'яўляецца незаконным і павінен быць зменены ў сувязі з несуадноснасцю прызначанага пакарання цяжкасці злачынства».

19 лістапада Паліенка атрымаў ліст з Мінгарсуда. У ім паведамляецца, што «11.11.2019 года дзяржаўным абвінаваўцам — старшым пракурорам аддзела пракуратуры Мінска Каралём А. быў адкліканы апеляцыйны пратэст, які пададзены 4.11.2019 года на прысуд Мінскага гарадскога суда ад 25.10.2019 г. па крымінальнай справе па абвінавачванні Паліенкі Дзмітрыя Аляксандравіча ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 339 КК».

## Ігар Марзалюк



**Дэпутат Палаты прадстаўнікоў 6 і 7 скліканняў рыхтуе пазовы ў суд на СМІ і каментатараў у інтэрнэце. Ён збіраецца прыцягнуць да адказнасці выданні і людзей, што дапускалі падчас выбараў абразы на адрас яго і яго давераных асобаў.**

«За кожную абразу, за кожную фальсіфікацыю і скажэнне зместу тэкстаў. Абразы людзей: маіх давераных асобаў, мяне асабіста. Яны ўсе адкажуць, адкажуць праз суд. Яны ж лічаць, што інтэрнэт — гэта сцяна, на якой яны могуць пісаць. Я і тут планую быць першапраходцам. Калі ідзе абраза людзей, выкарыстанне блатной фені, гебельскія метадыкі расчалавечвання. Хай яны расчалавечваюць сябе і на сваіх пляцоўках, — абураецца дэпутат. — І яны называюць сябе носьбітамі еўрапейскіх каштоўнасцяў? Талеранцыя — гэта калі табе могуць не падабацца погляды іншага чалавека, ты можаш з ім не пагаджацца, але не пераходзіш на асобы. Ты не здзекуешся з прозвішча. Не пішаш пасквілі пра сям'ю. Не плюеш у чалавека. І не ўжываеш блатны жаргон».

На пытанне, якім СМІ рыхтавацца да суда, Марзалюк запэўніў, што ён потым усе пералічыць.

22 лістапада 2019 | № 43 (654) Новы Час

# «Я спяшаюся жыць, бо ведаю, што такое быць хворым»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Як жывуць людзі з перасаджанымі органамі, з якімі праблемамі яны сутыкаюцца і чаму трансплантацыя — гэта жыццё?**



Удзельнікі «Міжнароднага цэнтра "Донарства Дыяліз Трансплантацыя"». Фота soccoop-by.info

### На мяжы жыцця і смерці

З брастаўчанінам Валерыем Чартковым мы пазнаёміліся на адной з сустрэчаў сеткі CINGO, якая аб'ядноўвае сацыяльныя прадпрыемствы. Валерый працуе ў прыватнай фірме ў сферы жыллёва-камунальных паслуг, а выхадныя часта праводзіць у камандзіроўках, звязаных з развіццём арганізацыі, якая дапамагае людзям, што сутыкнуліся з неабходнасцю трансплантацыі органаў. Ён сам двойчы перажыў перасадку ныркі.

— Дзевяць гадоў таму, калі я захварэў, думаў, што маё жыццё скончылася, — распавядае Валерый. — Потым зрабілі першую аперацыю. Жыццё да і пасля аперацыі — гэта ўсё роўна, што спачатку жыць у скляпенні, дзе няма ні святла, ні паветра, а пасля выйсці на вуліцу.

Суразмоўца прыводзіць прыклад: здаровы чалавек прачынаецца раніцай і будуе планы: сёння трэба зрабіць гэта, праз тыдзень — тое, а праз месяц — яшчэ нешта... Але ўсё гэта становіцца немагчымым, калі ныркі перастаюць спраўляцца са сваімі функцыямі і прызначаецца дыяліз — працэс штучнага вывядзення прадуктаў жыццядзейнасці і залішняй вадкасці з арганізма.



Фота Алісы Адамовіч

**Валерый Чарткоў:**

**«Калі я заходжу ў царкву, я проста стаўлю свечку за таго чалавека, які падарыў мне жыццё»**

— Калі мне стаў патрэбны дыяліз, я ўставаў у 6 раніцы і ехаў на працэдуру. Мне хацелася паспаць хоць раз. І калі зрабілі аперацыю, і я прачнуўся ў 8 гадзін, то падумаў: «Божа, як гэта прыемна!» А яшчэ, калі ты хварэеш, то хочаш піць — а нельга. Калі ты на гемадыялізе і тройчы на тыдзень мусіш хадзіць на працэдуру і чатыры гадзіны ляжаць пад апаратам, пакуль твая кроў 60 разоў праходзіць праз яго, нават лішнія 100 грамаў вады ствараюць цяжкасці.

Сустрэча з хваробай спачатку моцна засмуціла Валерыя, але потым, наадварот, матывавала: ён скончыў аўташколу, з першага разу здаў на правы і набыў аўтамабіль. Калі раней ён залежаў ад людзей, просячы то падвезці яго некуды, то прывезці раз на месяц неабходныя лекі, то цяпер ён адчуў сябе больш свабодным. «Я не люблю трывожыць людзей і не люблю, калі мяне шкадуюць», — кажа Валерый.

Перасадку яму зрабілі ў 2012 годзе. Але праз пяць гадоў нырка раптоўна адмовіла, давялося рабіць яшчэ адну аперацыю.

— Такое бывае. Любая аперацыя — гэта не на ўсё жыццё. Камусьці хапае на пяць гадоў, камусьці — на 15, камусьці — на 20. Напачатку трэба пастаянна прымаць лекі, каб чужы орган не адрынуўся. Свой імунітэт трэба моцна знізіць, і ў гэты час для нас прастуда — цяжкая хвароба.

Валерый зазначае, што людзі, якія чакаюць трансплантацыі (асабліва калі гэта не нырка, а іншы орган), аказваюцца на мяжы жыцця і смерці.

— Таму я спяшаюся жыць, бо ведаю, што такое быць хворым, калі не можаш нікуды паехаць і нічога рабіць. А калі пасля аперацыі становіцца лепш, хочацца шмат усяго зрабіць.

Да таго ж Валерый ніколі не сядзеў без працы, нягледзячы на тое, што з дзяцінства мае захворванне, якое накладае пэўныя абмежаванні. Трэба было забяспечваць сям'ю, але грошы — не галоўнае: праца дае магчымасць не думаць пра хваробу, а пераключацца на іншыя рэчы. Цяпер Валерый марыць стварыць сацыяльнае прадпрыемства, дзе будуць працаваць людзі, якім цяжка ўладкавацца на «звычайную» працу. Перадусім гэта людзі з інваліднасцю.

### «Калі людзі хварэюць, яны застаюцца адны»

Але пра сябе суразмоўца не любіць распавядаць, ён кажа, што проста заўжды хацеў дапамагаць іншым. І, здаецца, знайшоў такое месца, дзе можа рэалізаваць гэтую патрэбу і падзяліцца сваім досведам.

Яшчэ дзесяць гадоў таму ў нашай краіне рабілі адзінкавыя аперацыі па перасадцы тканак і органаў. Напрыклад, у Брэсцкай вобласці такія аперацыі зрабілі толькі двум людзям. Сёлета ж у адным толькі Брэсце прааперавалі больш за 60 чалавек. Трансплантологія ў Беларусі развіваецца шпаркімі тэмпамі, але разам з гэтым паўстае іншая праблема: падтрымка і сацыялізацыя людзей, якія сутыкнуліся з трансплантацыяй.

— Людзі не ведаюць, як жыць, і я таксама сутыкнуўся з гэтым. Калі людзі хварэюць, яны застаюцца адны. Таму 4,5 года таму дактары і пацыенты аб'ядналіся і стварылі ў Брэсце сацыяльна-асветніцкую ўстанову «Міжнародны цэнтр "Донарства Дыяліз Трансплантацыя"». Гэта арганізацыя, якая дапамагае людзям да аперацыі, пасля, а таксама іх родным.

Гэта адзіная ў Беларусі арганізацыя такога кірунку. Хоць паўстала і дзейнічае яна ў Брэсце, але плённа супрацоўнічае з падобнымі аб'яднаннямі з Польшчы, Украіны, Расіі, Казахстана. Цэнтр дапамагае ў рэабілітацыі і сацыяльнай адаптацыі людзей, якім перасадзілі органы альбо якія яшчэ чакаюць аперацыі; аказвае псіхалагічную, сацыяльную і прававую дапамогу; спрыяе працаўладкаванню, займаецца культурна-асветніцкай дзейнасцю і нават арганізуе спартыўныя спаборніцтвы (у тым ліку міжнародныя) паміж дактарамі і пацыентамі.



**Шмат з'яўляецца інфармацыі пра «чорную» трансплантологію. Але ў Беларусі гэтага няма. Для беларусаў трансплантацыя ў нас праводзіцца бясплатна, для замежнікаў — за грошы. Але рознага кшталту фільмы і размовы, што нехта зарабляе на гэтым мільёны, робяць дрэнную справу**

— Мы ладзім розныя акцыі, сустрэчы, распавядаем пра ныркі, іх захворванні і прафілактыку, дзелімся ўласным досведам і тымі цяжкасцямі, якія перажылі. І калі хоць пару чалавек задумаюцца пра сваё здароўе і стануць яго берагчы — значыць, усё недарэмна.

Таксама мы ладзілі акцыю «Глыток вады» — бо для працы нырак патрэбна піццё: дамовіліся з рэалізатарам пітной вады, і ва ўнівермагу распавядалі пра сябе і частавалі людзей вадой.

На Новы год мы ходзім віншаваць людзей у дыялізныя кабінеты: рыхтуем падарункі і невялікую праграму. І аднойчы доктар, які выконваў ролю Дзеда Мароза, сказаў аднаму з пацыентаў: «Мне здаецца, што яшчэ ў гэтым годзе для вас будзе нейкая вельмі прыемная навіна». І пайшоў далей віншаваць. Мы яшчэ стаім, як раздаецца званок, і таму пацыенту паведамляюць, што сёння яму будуць рабіць аперацыю. І як не верыць у цуды?

### Размовы пра «чорную» трансплантологію робяць дрэнную справу

Людзі, якія жывуць з перасаджанымі органамі, часцей за ўсё не ведаюць, хто быў іх донарам.

— Калі я заходжу ў царкву, я проста стаўлю свечку за таго чалавека, які падарыў мне жыццё, — кажа Валерый. — Ён памёр не ад таго, што табе гэта было патрэбна, проста адбылося нейкае здарэнне. Хаця ў грамадстве ўсё яшчэ ёсць неадназначнае стаўленне да гэтага, шмат з'яўляецца інфармацыі пра «чорную» трансплантологію. Але ў Беларусі гэтага няма. Для беларусаў трансплантацыя ў нас праводзіцца бясплатна, для замежнікаў — за грошы. Але рознага кшталту фільмы і размовы, што нехта зарабляе на гэтым мільёны, робяць дрэнную справу.

Увогуле, кажа Валерый, адна з мэтаў установы «Донарства Дыяліз Трансплантацыя» — данесці, што донарства — гэта жыццё. Чалавек, які — так здарылася — памёр, можа даць жыццё яшчэ сямі іншым людзям.

— Калі яго проста пахаваюць, то за ім пахаваюць і яшчэ тых сем чалавек, якім не перасадзілі гэтыя органы. Увогуле, цяжка пра гэта размаўляць, гэта вельмі складаная тэма. Але мы кажам, што трансплантацыя — гэта жыццё.

Напрыканцы размовы прашу Валерыя сфармуляваць некалькі парадаў для людзей, якія сутыкнуліся з неабходнасцю трансплантацыі. Як ні дзіўна, у першую чаргу суразмоўца раіць думаць не пра сябе, а пра тых, хто побач. І не спрабаваць шукаць вінаватых. А лепей звярнуцца да досведу людзей, якія самі прайшлі праз гэта.

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



# Удача для бюджэту

Павел КІРЫЛАЎ

**У Беларусі апошнімі гадамі азартным гульням даецца зялёнае святло, але разам з тым робяцца захады па абмежаванні іх дасяжнасці. Бо, з аднаго боку, гэта дае паступленні ў бюджэт, а з другога — цягне за сабой негатыўныя сацыяльныя наступствы: крымінал і гульнявую залежнасць. То-бок, пытанне маральна-эканамічнае.**




У СССР азартныя гульні апынуліся пад забаронай з канца 1920-х гадоў (пасля вольніцы НЭПу). У Крымінальным кодэксе з'явіліся адмысловыя карныя артыкулы. Яно і зразумела: ну якія пры сацыялізме непрацоўныя даходы? Адно што за некалькі гадоў да Алімпіяды–1980 дзеля дадатковага фінансавання падрыхтоўкі да яе пачалі праводзіць латарэю «Спортлато». Апрача таго, савецкія ўлады не чапалі таталізатары на іпадромах — адзіныя месцы, дзе можна было адкрыта гуляць на грошы. Іпадромы пакінулі, каб вывучаць новыя пароды коней з разлікам на ваенныя мэты. А падпольна народ, натуральна, гуляў на грошы, бавячы час з картамі, даміно ці ў більярдных.

У 1988 годзе з'явіліся гульнявыя аўтаматы пры гатэлях «Інтурыст», каб прываблiваць замежнікаў. А праз год — спачатку ў Таліне, а затым у Маскве — адкрыліся першыя казіно. Пасля скону СССР казіно, і асабліва залы гульнявых аўтаматаў, пачалі расці як грыбы пасля дажджу. Першыя — для заможных грамадзян, другія — для бедных. «Аднарукія бандыты» дасюль прыгадваюцца як адзін з кідкіх атрыбутаў жыцця ў так званыя «ліхія 90-я». Што да Беларусі, то ў нас першае казіно з'явілася ў 1992 годзе — у мінскай гасцініцы «Юбілейная». Таксама пачалі распаўсюджвацца іншыя віды гэмблінгу (гэта па-англійску — «азартныя гульні»). У 1993 годзе адкрылася першая букмекерская кантора (установа, дзе прымаюцца стаўкі на выніку розных падзеяў — перадусім спартовых).

### Уся краіна — Лас-Вегас

Сапраўдны бум з установамі гульнявога бізнесу пачаўся з 2009 года, калі ў Расіі забаранілі казіно, апрача чатырох спецзонаў — у Калінінградскай вобласці, у Краснадарскім, Алтайскім і Прыморскім краях. Пазней пятую зону вырашана было стварыць у адабраным ва Украіны Крыме. Гуляць у рулетку ці покер на грошы можна толькі ў гэтых рэгіёнах, на астатняй тэрыторыі Расіі засталіся толькі букмекерскія канторы і таталізатары. Натуральна, там дзейнічае нямала падпольных казіно. Праваахоўныя органы штогод закрываюць іх дзясяткамі. Свежы прыклад: у сёлетнім жніўні маладая беларуска атрымала штраф (больш за 9 тысяч нашых рублёў у эквіваленце) за арганізацыю падпольнага казіно ў падмаскоўным Дамадзедаве.

Паводле экспертаў, менавіта праз мноства падпольных гульнявых установаў, пераход азартнікаў у інтэрнэт ды легальныя казіно ў іншыя краіны, створаныя ў Расіі адмысловыя гульнявыя зоны і не далі чаканага эканамічнага эфекту. Дарэчы, толькі за перыяд з 2015 па 2018 гады тамтэйшая Федэральная служба па наглядзе ў сферы інфармацыйных тэхналогій і масавых камунікацый заблакавала больш за 100 тысяч гульнявых сайтаў! Што да легальных афлайнавых месцаў для азартных гульняў, то асабліва скарысталася сітуацыяй наша краіна. Аляксандр Лукашэнка тады не без рацыі заявіў, што «гульнявы бізнес можа і павінен стаць дадатковай крыніцай папаўнення бюджэту, паспрыяць стварэнню новых працоўных месцаў, прыцягненню турыстаў і інвестыцыяў».

Стварэнне гульнявой зоны ў Беларусі таксама абмяркоўвалася. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Васіль Хрол некалькі гадоў прасоўваў ідэю з'яўлення мясцовага «Лас-Вегасу» ў Глыбокім на Віцебшчыне. Таксама разглядаўся праект узвядзення гульнявой рэзервацыі паблізу Нацыянальнага аэрапорта «Мінск». У выніку ад стварэння гульнявай зоны адмовіліся, бо, каб мець істотны даход у бюджэт, адпаведныя ўстановы павінны быць максімальна даступныя як мага большай колькасці патэнцыйных гульцоў. І гэтая стаўка беларускіх уладаў спрацавала. Напрыклад, у 2012 годзе ў параўнанні з 2010-м падатковыя паступленні ў бюджэт ад гульнявога бізнесу выраслі амаль утрая. Таму гаворка і вядзецца пра сапраўдны бум.

Што праўда, пасля 2014 года ён сцішыўся. Прычыны — праблемы ў расійскай эканоміцы, якія адбіліся на тамтэйшых гульцах, увядзенне ў Беларусі ў 2016 годзе падаходнага падатку ў памеры 4% з кожнага выйгрышу. Вырасла канкурэнцыя: з'явілася шмат казіно на марскіх курортах — багацеям даспадобы сумяшчаць азартнае баўленне часу з курортным адпачынкам. Вынік: установаў з азартнымі гульнямі ў Беларусі заўважна паменела. Напрыклад, у Мінску сёлета закрылася вядомае казіно «Белая вежа». Цяпер у Беларусі трохі меней за 30 казіно, 175 залаў гульнявых аўтаматаў і пад 200 букмекерскіх кантор. Большая частка казіно і трацiна залаў з гульнявымі аўтаматамі размешчаныя ў сталіцы.

### Нагуляныя падаткі

Натуральна, што казіно ды букмекерскія канторы заўжды застаюцца ў выйгрышы, але ім даводзіцца несці і вялікія выдаткі на сваю дзейнасць. Таму не ўсім удаецца функцыянаваць так, каб атрыманыя даходы іх пераўзыходзілі. Уладальнікі гэмблінгавых установаў наракаюць, напрыклад, на значнае павелічэнне ў 2017 годзе фіксаваных падатковых ставак на аб'екты гульняў і ўвядзенне платы за доступ да сістэмы, якая кантралюе абарачэнне грошай. Што да ставак падатку, то яны даволі значныя: 1500 рублёў на касу букмекерскай канторы, 2250 — на касу таталізатара, 240 — на гульнявы аўтамат, 7140 — на гульнявы стол. Гэта на месяц.

На падаходны падатак у 4% з выйгрышу скардзяцца і бізнесоўцы, і гульцы. Была нават петыцыя да Міністэрства па падатках і зборах. Падатак у ёй называўся абсурдным, бо бярэцца не з розніцы паміж стаўкай і выйгрышам, а з усёй прызавой сумы. Прыводзіўся прыклад: «Гулец зрабіў стаўку ў 100 рублёў з каэфіцыентам 1,2. У выпадку перамогі ён атрымлівае 120 рублёў — зробленую стаўку і 20 рублёў выйгрышу (чыстага прыбытку). Але заплаціць падатак у 4% давядзецца з усёй сумы, гэта значыць са 120 рублёў. Атрымліваецца 4,8 рубля. Гулец фактычна заплаціць не анансаваныя 4%, а ўсе 24% ад рэальнага даходу».

Бярэцца падатак і са стаўкі, якая вяртаецца, калі яна не згуляла: напрыклад, калі спартовае мерапрыемства адмянілі ці перанеслі. У гэтым выпадку і пры стаўках з невялікім каэфіцыентам гулец наогул пасля сплаты падатку апынаецца ў мінусе. Магчыма, кампрамісным рашэннем было б захаванне гэтага падатку пачынаючы з нейкай парогавай выйгрышнай сумы.

Зрэшты, уладам пакуль удаецца збіраць на гэтым рынку з кожным годам усё болей падаткаў. Доля падатку з установаў гульнявога бізнесу ў даходах бюджэту, кантраляваных Міністэрствам па падатках і зборах, складае 0,2%. Гэта самая малая пазіцыя ў структуры плацяжоў. Для параўнання, адзіны падатак з індывідуальных прадпрымальнікаў ды іншых фізасобаў, а таксама экалагічны падатак — па 0,5%, зямельны падатак — 2,7%. Але агулам сума гульнявога падатку істотная: за 2018 год атрымана 47,3 мільёна рублёў, за 2017-ы — 44,8 мільёна. Падаходны падатак з фізасобаў, вылічаны з даходаў у выглядзе выйгрышаў, атрыманых ад арганізатараў азартных гульняў, — адпаведна, 35,7 мільёна і 33,3 мільёна рублёў.

Зміцер Лысюк, эксперт Цэнтра новых ідэяў, зазначае, што эканамічная выгада ад гульнявога бізнесу не такая відавочная: «Калі б гэтая сфера была пад забаронай, грошы беларусаў, патэнцыйна спушчаныя ў азартных месцах, маглі быць выдаткаваныя на ежу, рэстараны, вопратку і гэтак далей. То-бок, усё роўна засталіся б у эканоміцы краіны. Хаця расійскіх грошай мы б, канечне, недалічыліся».

І ўладам трэба памятаць, што, паралельна даходам у бюджэт, страчваюць людзі. Прайграючы кватэры і ідучы на злачынствы дзеля здабыцця грошай на рулетку. «Хоць азартныя ўстановы ў Беларусі не забароненыя, у той жа час да іх папулярызацыі трэба ставіцца стрымана. Варта памятаць, што гэтая сфера з'яўляецца рызыкоўнай з сацыяльнага пункту гледжання. Ва ўсялякім разе падарожнік, які едзе з Нацыянальнага аэрапорту ў Мінск, не павінен мець ураджанне, што ён кіруецца ва ўсходнееўрапейскі Лас-Вегас», — кажа Лысюк.

Разам з тым, паводле многіх эканамістаў, сфера гульнявога бізнесу дастаткова непразрыстая па ўсім свеце. Таму ў рэчаіснасці тут могуць абарачацца шматкроць большыя сумы грошай. У тым ліку і адмывацца, і, можа быць, пад прыкрыццём сілавых ведамстваў.

# Эпідэмія гульняманіі

Сяргей БУЖАЎ

**Лекарскія дадзеныя па колькасці тых, хто гуляе ў Беларусі на грошы і хто ўжо хворы на гульняманію, вас уразяць. Паводле спецыялістаў Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру псіхічнага здароўя, наведваюць казіно, залы гульнявых аўтаматаў і букмекерскія канторы больш за 3 мільёны беларусаў! Пад 300 тысяч з іх робіць гэта часцей за 10 разоў на месяц. А гэта ўжо дыягназ залежнасці — гульняманіі.**

Але дакладна колькасць людзей, якія бавяць час у азартных гульнях у інтэрнэце, не падлічыць. А там залежнасць фарміруецца і хутчэй, і мацнейшая. Бо, па-першае, ёсць такая нярэдкая з’ява, як уласна камп’ютарная залежнасць. Дакладней, дзвайсавая: камп’ютары плюс мабільныя тэлефоны з выхадам у інтэрнэт. Паводле даследаванняў РНПЦ, 20% маладых людзей ва ўзросце 18–29 гадоў маюць камп’ютарную залежнасць. Прычым кожны сёмы з іх — у такой ступені, якая ўжо вымагае лячэння ў медычным стацыянары. То-бок, залежніцкі грунт сядзіць ужо ў шмат кім з маладых пакаленняў, якія штодня гадзінамі перабываюць у віртуальнай прасторы.

Па-другое, у інтэрнэце процьма рэкламы азартных гульняў, на якую лёгка спакусіцца. Дарэчы, і ў тэлевізары рэкламы азартных гульняў, тых самых букмекерскіх кантораў падчас спартовых трансляцыяў, хапае: «Гуляюць яны, перамагаеце вы!» Гэта моцнае падаграванне заўзятарскага імпэту. А між тым, паводле псіхіятраў, гульнямання лекуецца больш складана, чым той самы алкагалізм.

У інтэрнэце, апрача ўласна рэкламы, розныя казіно, покеры і букмекеры завабліваюць разнастайнымі акцыямі. У тым ліку дораць невялічкія стартавыя капіталы, якія вельмі хутка прайграюцца, пасля чаго ў многіх можа з’явіцца рэваншысцкае жаданне перамагчы, паставіўшы ўжо ўласныя грошы. І добра, калі вы не сядзеце на кручок і ахвяруеце на авантурнічанне якіх 5–10 долараў.

Па-трэцяе, анлайнавыя азартныя гульні больш даступныя, чым тыя, што праводзяцца нажыва: гуляць у іх можна, не выходзячы з дому і не на людзях. Публічнасць жа некаторых можа спыняць.

**Гульнявая залежнасць — паталагічная цяга да азартных гульняў, якая заключаецца ў частым паўторным удзеле ў іх, дамінуе ў жыцці чалавека і вядзе да зніжэння сацыяльных, прафесійных, матэрыяльных і сямейных каштоўнасцяў**

## Залежнасць: прычыны і прыкметы

Улічваючы анлайнізацыю і маштабную прапанову віртуальных азартных гульняў у дадатак да традыцыйных, можна спрагназаваць блізкім часам рост гульнявой залежнасці. Не забываемся таксама на геймераў, якія бавяцца, быццам, не ў азартныя гульні кшталту покера ці казіно, але трацяць на розныя гульнявыя аздобы і аб’екты таксама жывыя грошы. Напрыклад, на набыццё танкаў у World of Tanks. Карацей, выбар, на што падсесці і змарнаваць грошы, а заадно і псіхічнае здароўе — багаты.

І таму суцэльную заслону ад такіх рызыкаў не ўсталяваць, аднак можна мінімізаваць. Варта таксама аказваць дапамогу гульнянам. Улада, цешачыся напаўненнем бюджэту гульнявымі падатковымі паступленнямі, не можа не зважаць на сацыяльныя і эканамічныя страты ад гульняманіі. Бо залежныя ад яе прайграюць машыны, кватэры, залазяць у пазыкі, могуць здабываць грошы на гульню крымінальным спосабам, суіцыднічаюць у выпадку паразаў, іх эмацыйная няўстойлівасць і хворая звычка адбіваецца на сем’ях...

У РНПЦ псіхічнага здароўя кажуць пра сапраўдную эпідэмію гульняманіі і фармулююць залежнасць так: «Гульнявая залежнасць — паталагічная цяга да азартных гульняў, якая заключаецца ў частым паўторным удзеле ў іх, дамінуе ў жыцці чалавека і вядзе да зніжэння сацыяльных, прафесійных, матэрыяльных і сямейных каштоўнасцяў». Тыповыя сітуацыя для гульцоў — складанасці ў міжасабовых стасунках, частыя разводы і змены працы праз парушэнні працоўнай дысцыпліны. Часцей на гульняманію хварэюць мужчыны, але ў жанчын яна набывае больш цяжкія формы. «Жанчыны ўцягваюцца ў небяспечнае захапленне ўтрая хутчэй і больш складана паддаюцца псіхатэрапіі. Кожны трэці псіхалагічны гулец — жанчына», — гавораць дактары. Самая распаўсюджаная прычына сыходу ў гульні — асабістыя праблемы. Дарэчы, вельмі часта гульцы злоўжываюць наркотыкамі і алкаголем: то-бок, маюць камбінаваную залежнасць.




# Гульцы ў віртуале

Павел КІРЫЛАЎ

**Сёлета пачаў дзейнічаць шэраг заканадаўчых зменаў умоваў функцыянавання гульнявога бізнесу ў Беларусі. Перадусім увага дзяржавы звернутая на яго электронныя формы. Мэта — перавабіць нашых грамадзян з замежных пляцовак азартных гульняў у інтэрнэце ў тыя, што зарэгістраваныя ў нашай краіне і, адпаведна, кантралююцца падатковай ды іншымі дзяржаўнымі органамі. Некаторыя новаўвядзенні тычацца і гульняў на грошы жыўцом — традыцыйных, у афлайне.**

Новыя правілы гульняў на грошы праз інтэрнэт пачалі дзейнічаць ад сёлетняга красавіка паводле ўказа Лукашэнкі №305 «Аб удасканаленні прававога рэгулявання гульнявога бізнесу». Галоўная прыўнесеная ім навізна — легалізацыя азартных анлайн-гульняў. Чыноўнікі кажуць, што яна была прадугледжана Канцэпцыяй развіцця гульнявога бізнесу, прынятай яшчэ ў 2011 годзе. Мэтамі ў гэтым дакуменце былі названыя «стварэнне сістэмы эфектыўнага дзяржаўнага рэгулявання сферы гульнявога бізнесу, якая б забяспечвала абарону насельніцтва Рэспублікі Беларусь ад негатыўных праяваў гульнявога бізнесу з аднachасовым узмацненнем дзяржаўнага кантролю за абарачэннямі грашовых сродкаў у гэтай сферы».

На той момант — амаль дзесяць гадоў таму, — заканадаўства ў галіне арганізацыі анлайн-гульняў існавала толькі ў дзвюх краінах: на Мальце ды ў Італіі. А яшчэ яго толькі-толькі распрацоўвала Францыя. У астатніх дзяржавах анлайн-казіно, покер ды іншыя гульні праз інтэрнэт былі незаконнымі або не ўрэгуляванымі нейкімі заканадаўчымі актамі. У Канцэпцыі развіцця гульнявога бізнесу ў Беларусі таксама чытаем: «Каштоўнасць рэалізацыі праекта па стварэнні анлайн-гульняў палягае ў тым, што ў гульню прываблівaюцца грамадзяне іншых краін, у выніку чаго рэзка павялічваецца ёмістасць гульнявога рынку. Напрыклад, абароты кампаній, што рэалізуюць анлайн-гульні на Мальце, складаюць 8 мільярдаў еўра на год. У выніку ў краіну прыцягваюцца значныя валютныя сродкі». Меркавалася ўсталяваць стопрацэнтны дзяржаўны кантроль за фінансавымі плынямі, у тым ліку для таго, каб не дапусціць легалізацыі даходаў, атрыманых злачыннымі спосабамі. Прадбачыліся складанасці ў ідэнтыфікацыі гульцоў. Што ж у выніку прыдумалі і прапісалі ў нас заканадаўча?

## Пад кантролем падатковай

Паводле ўказу №305, азартныя гульні ў інтэрнэце могуць праводзіць фірмы, якія маюць адмысловую ліцэнзію на права дзейнасці ў гульнявым бізнесе. То-бок, тыя юрыдычныя асобы, якія валодаюць ліцэнзіяй на ўтрыманне казіно ці залы гульнявых аўтаматаў у «рэале». Афіцыйна інтэрнэт-рэсурс, дзе размешчана анлайн-казіно ці анлайн-покер, называецца віртуальнай гульнявой установай. Платформа віртуальнай гульнявой установы павінна размяшчацца на серверах, якія фізічна знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі. Даменнае імя падлягае рэгістрацыі ў інтэрнэт-зонах «.by» або «.бел».

Цікавы момант: каб утрымліваць віртуальную гульнявую

**У дастаткова хуткім часе гуляць у азартныя гульні на грошы на замежных сайтах, якія не ўрэгуляваныя беларускім заканадаўствам, будзе складана: з 1 красавіка 2021 года яны будуць блакавацца — лічы, пад слоганам «Гуляй у сваё!»**



Звярніце ўвагу на падставовыя чыннікі гульнявой залежнасці, якія называюць лекары: удзел у гульнях бацькоў, знаёмых дарослых у дзяцінстве (даміно, карты, «Манаполія»); пераацэньванне значэння матэрыяльных каштоўнасцяў; фікс-увага на фінансавых магчымасцях; зайздрасць да больш заможных сваякоў і знаёмцаў; перакананне, што ўсе праблемы можна вырашыць з дапамогай грошай.

Прыкметы ж залежнасці — павелічэнне часу, які аддаецца на гульню; змяненне кола інтарэсаў і замена ранейшых матывацыяў гульнёй; уяўленне сітуацый, звязаных з гульнёй; страта кантролю, якая выражаецца ў нездольнасці спыніць гульню ў выпадку вялікага выйгрышу ці пастаянных паразаў; стан псіхалагічнага дыскамфорту, які ўзнікае адносна хутка пасля чарговага ўдзелу ў гульні з непераадольным жаданнем зноў у яе ўключыцца; паступовае пачашчэнне ўдзелаў у гульні і імкненне да больш высокіх рызыкаў.



**На пачатковай стадыі гульнявой залежнасці можна змагацца з ёй без дапамогі лекараў. Трэба, каб жыццё цякло без канфліктаў, якія правакуюць гульняманію, і было запоўнена рознымі актыўнасцямі. Калі праблема запусцілася, то давядзецца звяртацца да дактароў**

На пачатковай стадыі гульнявой залежнасці можна змагацца з ёй без дапамогі лекараў. Трэба, каб жыццё цякло без канфліктаў, якія правакуюць гульняманію, і было запоўнена рознымі актыўнасцямі. Калі праблема запусцілася, то давядзецца звяртацца, напрыклад, у 21-е аддзяленне РНПЦ, дзе лечаць і гульнявую залежнасць. Дарэчы, калі гульняман абярэ платнае лячэнне, то яно будзе ананімным. План лячэння індывідуальны — ад медыкаментаў і масажу да сямейнай тэрапіі. Таксама ад гульнявой залежнасці паспрабуюць пазбавіць у псіханеўралагічных дыспансерах — можна звяртацца ў гэтыя медустановы ў вашай мясцовасці (у абласных і некаторых райцэнтрах).

## «Бедныя становяцца жабракамі»

Ну і, ясная справа, усе гульняманы павінны апынуцца ў «стоп-лісце». Гэта калі гулец, прызнаючы праблему, піша заяву, каб яго не пускалі ў казіно, залы гульнявых аўтаматаў і падобныя ўстановы. Напісаць яе можна толькі аднаму арганізатару азартных гульняў — і самазабарона тэрмінам ад 6 месяцаў да 3 гадоў будзе дзейнічаць па ўсёй Беларусі. Гэта працэдура дзейнічае з 2013 года, а з 2017-га такую заяву могуць напісаць сваякі залежнага ад азартных гульняў (у гэтым разе пытанне вырашаецца праз суд). У «стоп-лісце» прафігуравалі ўжо больш за 50 тысяч грамадзян Беларусі.

«Новы Час» пагутарыў з двума гульцамі пра тое, як яны патрапілі ў залежнасць і панеслі фінансавыя страты.

Вікторыя распавядае, што ўсё распачалося ў яе са звычайных латарэек і лішняга вольнага часу: «Я рэгулярна купляла папяровыя латарэйкі, выйгрышы былі мізэрныя, і неяк паспрабавала пагуляць у міжнародныя электронныя латарэі з вялікім прызавым фондам. Польскія, італьянскія, амерыканскія. Стала вывучаць тэматычныя форумы, іншыя азартныя гульні. Зацікавілася покерам. Прычым сур'ёзна — з вывучэннем стратэгіяў гульні і гэтак далей. Гуляла ў інтэрнэце, ужывую не знайшла такіх месцаў у Мінску. Часу ў мяне хапала: я дызайнер, працую дома з гнуткім графікам, мужа няма, сын ужо дарослы. Калі выдаткоўвала няшмат грошай на покер, то баланс мой вагаўся то ў плюс, то ў мінус. Але пачаліся паразы — паўстала жаданне адгуляцца. Дый покер — гэта цікава, гульня не проста на ўдачу, як рулетка. Прычым я гуляла на 3–4 покерных пляцоўках. Абрынулася цягам амаль года ў мінус 4 тысячы рублёў. Пакарала сябе тым, што ўлетку не паехала ў адпачынак. Заключыла з сабою дамову гуляць толькі па выходных на строга акрэсленую невялікую суму. Пакуль трымаюся. Але хіба трэба з нейкім псіхолагам пагутарыць. Бо начыталася, як людзі ў адных майтках застаюцца».

Андрэй да псіхолага схадзіў пасля таго, як гульнявыя аўтаматы яго роднага райцэнтра шпурнулі яго ў даўгавую яму: «Гэта адбылося пасля заканчэння ўніверсітэту, я толькі ўладкаваўся на працу. Заробак быў сціплы, падпрацоўку мне ўзяць было складана. Вырашыў пабагацець па-хуткаму. Той мой стан можна апісаць як падзенне з аптымізму і фантазіяў (я не сквапны — нават дабрачыннасцю хацеў займацца ў выпадку значных выйгрышаў) да неўрозу і галечы. Стаў пазычаць грошы, прыдумляючы ўсялякую хлусню. Гуляць ездзіў у іншыя гарады, каб у сваім надта не мільгацець. Працу ў выніку кінуў. Тады мяне маці проста за руку да лекара-псіхолага і павяла. Я кардынальна памяняў жыццё, прафесію, пераехаў у Мінск. Залы гэтыя гульнявыя ды іншыя азартныя кропкі не павінны быць навідавоку, іх трэба за горад куды пераносіць. І ўваход платным нават зрабіць — хай тыя, хто заможны і мае лішкі, так забаўляюцца. Але, на жаль, часта бедныя становяцца ўвогуле жабракамі».

ўстанову, трэба не толькі мець ліцэнзію на ажыццяўленне дзейнасці ў галіне гульнявога бізнесу, але і весці гэтую самую дзейнасць цягам не менш як двух гадоў. Гэта азначае, што замежныя кампаніі пры жаданні адкрыць легальнае анлайн-казіно ў нашай краіне павінны будуць купляць ужо існыя беларускія юрыдычныя асобы з такой ліцэнзіяй.

Патрабуецца мець гарантыйны дэпазіт на спецрахунку, які будзе выкарыстоўвацца для забеспячэння выплатаў выйгрышаў і разлікаў з бюджэтам у выпадку фінансавых праблемаў арганізатараў азартных гульняў. Гэтыя арганізатары павінны прадставіць падатковым органам і Маніторынгаваму цэнтру па гульнявым бізнесе аддалены доступ да віртуальнай гульнявой установы. Гульнявыя сталы ці аўтаматы павінны стаяць, як і рэальныя, на ўліку ў адмысловай камп'ютарнай касавай сістэме, з дапамогай якой дзяржава павінна кантраляваць празрыстасць працэсу гульняў і абарачэння сродкаў на стаўках, выйгрышах і гэтак далей. Прычым для абарачэння грошай у анлайн-гульнях фірме, якая іх ладзіць, трэба выкарыстоўваць толькі свае дзейныя банкаўскія рахункі.

Узмацнілі кантроль і за традыцыйнымі, што працуюць у «рэале», азартнымі гульнямі. Іх арганізатары абавязаныя ўстанаўліваць у памяшканнях відэакамеры, каб фіксаваўся ўвесь працэс гульні. Вызначаныя канкрэтныя месцы для гэтага — на ўваходзе, у залах, дзе гуляюць, а таксама пры выдачы выйграных сумаў. Запісы на відэакамерах павінны захоўвацца цягам месяца.

Маюцца ва ўказе №305 «Аб удасканаленні прававога рэгулявання гульнявога бізнесу» і лібералізацыйныя палёгкі для гульнявых бізнесоўцаў. Дзеля ўключэння мадэляў гульнявых аўтаматаў у Дзяржрэестр дазволена прымаць іх выпрабаванні, праведзеныя ў замежных лабараторыях. Адменены абавязак рэгістраваць гульнявое абсталяванне ў падатковых органах — ва ўмовах, калі яно падлучаецца да адмысловай сістэмы Маніторынгавага цэнтра па гульнявым бізнесе. Калі абсталяванне будзе выкарыстоўвацца меней за 15 каляндарных дзён, прадугледжанае зніжэнне стаўкі падатку на 50 працэнтаў. Выплата выйгрышаў, паводле рашэння арганізатараў азартных гульняў, можа цяпер прыпыняцца на тэрмін да 30 дзён. Гэта прадугледжана для спрэчных выпадкаў, калі, напрыклад, ёсць падазрэнне, што гулец нейкі чынам маніпуляваў з гульнявым аўтаматам ці здарылася яго няспраўнасць. Раней жа спачатку выплачваліся грошы, а потым вялося разбіральніцтва.

## «Гуляй у сваё!»

Што да гульцоў, то ўзроставы цэнз падвышаны з 18 да 21 года. Натуральна, у выніку гэтага колькасць гульцоў стане меншай, хаця па-сур'ёзнаму плацежаздольных асобаў у такой узроставай катэгорыі не так багата. Цэнз тычыцца як анлайн-пляцовак, так і стацыянарных гульнявых установаў. Калі, напрыклад, зала гульнявых аўтаматаў дапусціць маладога чалавека да 21 года паспытаць удачу, то атрымае штраф.

Аматараў азартных гульняў не можа не цешыць тое, цяпер яны могуць бавіцца і спрабаваць зарабіць, не выходзячы з дома. Сродкам здабывання фінансаў і азартных эмоцыяў стане мабільны тэлефон або камп'ютар. Каб атрымаць магчымасць гуляць, спатрэбіцца ідэнтыфікацыя. Яна можа адбывацца праз электронны лічбавы подпіс або праз працэдуру web-ID: чалавек павінен паказацца з пашпартам у руках, каб можна было параўнаць яго твар з фотаздымкам на пасведчанні асобы.

Што забаронена гульцам? У «рэале», паводле правілаў, нельга знаходзіцца ў гульнявых установах «у п'яным выглядзе, які зневажае чалавечую годнасць і мараль», у анлайне — калі ласка. Калі без жартаў, то забарона на анлайн-гульні дзейнічае, «калі наведвальнікі віртуальнай гульнявой установы аказваюць або могуць аказаць уплыў на вынікі падзеі гэтай гульні (уздзеянне на выпадковы вынік гульні)», «калі выкарыстоўваецца праграмнае забеспячэнне або тэхнічныя прыстасаванні, якія аказваюць уздзеянне на выпадковы вынік гульні ці дазваляюць яго прадбачыць».

Выйграныя грошы, калі вам пашчасціць, выплацяць на той банкаўскі рахунак, з якога вамі пералічваліся грошы для гульні (тое самае тычыцца сістэмаў электронных грошай і гаманца). Вы іх атрымаеце ўжо за вылічэннем 4-працэнтнага падатку на выйгрыш. Яшчэ колькі камісійных працэнтаў возьме банк ці сэрвіс электронных грошай за пералічэнне сродкаў на ваш рахунак-гаманец.

Гэта, а таксама пільнае адсочванне дзяржавай усяго працэсу анлайн-гульняў — прычыны, каб многія гульцы заставаліся на замежных інтэрнэт-пляцоўках з азартнымі гульнямі. Але толькі ў тым выпадку, калі такія гульцы аніяк не «свецяць», не дэкларуюць гэтых сваіх выйгрышаў. Бо з іх трэба плаціць падатак як з даходаў з-за мяжы — а гэта 13%. То-бок, больш выгадна гуляць у анлайн-гульні, арганізатары якіх маюць ліцэнзіі ў Беларусі. Ну і кантроль з боку дзяржавы — гарантыя таго, што анлайнавыя казіно, покер-румы ды букмекерскія канторы вас не падмануць і ўсё вамі выйгранае выплацяць.

Нарэшце, у дастаткова хуткім часе гуляць у азартныя гульні на грошы на замежных сайтах, якія не ўрэгуляваныя беларускім заканадаўствам, будзе складана: з 1 красавіка 2021 года яны будуць блакавацца — лічы, пад слоганам «Гуляй у сваё!».






**Апошнім часам набылі вялізную папулярнасць квізы — віктарыны ў публічных месцах, калі збіраюцца сяброўскія каманды і спаборнічаюць у вырашэнні розных задачак, заснаваных на ведах ці логіцы. Папулярнасць тлумачыцца проста: людзі праз камп'ютарызацыю засумавалі па фізічным баўленні часу разам**

# Гульні, якія збліжаюць

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**Як на вашу думку, ці заганна гуляць у азартныя гульні? У кожнага на гэта сваё меркаванне, і пад радыкальнае асуджэнне могуць патрапіць і латарэйкі, і нават віктарыны кшталту «Што? Дзе? Калі?», дзе гуляюць таксама не толькі на інтарэс. І ў настольныя гульні можна прыўнесці меркантыльнага азарту. З другога боку, падобныя забаўкі — перадусім разумовыя трэніроўкі ды прыемнае баўленне часу ў кампаніі, бо прызавыя грошы тут не такія ўжо вялікія, каб выйгрыш іх быў галоўнай матывацыяй і спаланіў чалавека ў залежнасць. У любым разе, і на такіх добрых гульнях можна добра зарабіць, асабліва калі ты іх арганізатар.**

Калі вы ўсё ж вырашыце пагуляць у «дрэнныя» азартныя гульні, то вось некалькі трывалых пастулатаў на ўсе часіны і народы. Памятайце, што гуляюць і прайграюць мільёны, а выйграюць адзінкі. То-бок, гэта — справа выпадку. А таму малаверагодна, што менавіта вам пашанцуе, а тым болей не варта разлічваць, што азартныя гульні могуць быць сталай крыніцай даходаў. Болей шанцаў перамагчы ў покер ці на спартовых стаўках, чым у казіно і на гульнявых аўтаматах, бо там, апрача ўдачы, некаторым чыннікам выйгравання з'яўляюцца вашыя веды і ўменні: ці то картачнае майстэрства, ці то арыентаванне ў свеце спорту і здатнасць да аналітычных прагнозаў. Дарэчы, некаторыя зарабляюць на спартовых прагнозах на адмысловых букмекерскіх сайтах, але гэта — аўтарытэтныя асобы ў свеце спорту: былыя спартоўцы, каментатары. Аднак нішто не замінае вам стварыць блог як заўзятару.

Успрымайце азартную гульню як забаву. Скажам, спартовая стаўка на вынік гульні ўлюбёнай каманды можа дадаць эмоцыяў заўзенню. Дзеля гэтага лепей нават не звязвацца з арганізатарамі азартных гульняў, а заключыць пары ў сяброўскай кампаніі. І гуляйце, калі ўжо рызыкнулі, толькі на тыя сумы, якіх не шкада. Умоўна кажучы, на зэканомленыя на нечым грошы ці падораныя, ці выпадкова заробленыя. Для буйных выйгрышаў на тых самых спартовых стаўках трэба трымацца спецыяльных стратэгій, а для гэтага патрэбныя дастаткова вялікія сумы. Да прыкладу, нейкая абраная вамі каманда часта гуляе ўнічыю. Напрыклад, трацціну сваіх матчаў. Можна кожны чэмпіянатны тур ставіць пэўную суму на яе гульню ўнічыю — будуць паразы па стаўках, але калі-небудзь і добрыя выйгрышы, якія акупяць прайграныя стаўкі. Аднак такая стратэгія пасуе, паўторымся, толькі тым, хто мае буйныя сумы для гульні, добрыя нервы, каб не расстроіцца ад паразаў і не памкнуцца на стаўкі-рэваншы любым коштам, і ўменне аналізаваць. Але такая тройца якасцяў для азартнага гульца — рэдкасць. І калі вы добра разбіраецеся ў спорце, памятайце, — у букмекерскіх канторах таксама працуюць прафесіяналы, якія вызначаюць каэфіцыенты на тыя альбо іншыя матчы не са столі.

## На злом галавы

Апошнім часам набылі вялізную папулярнасць разнастайныя квізы — віктарыны ў публічных месцах, калі збіраюцца сяброўскія ці карпаратыўныя каманды і спаборнічаюць у вырашэнні розных задачак, шукаюць адказы на пытанні, заснаваныя на ведах ці логіцы. Папулярнасць тлумачыцца проста: людзі праз камп'ютарызацыю засумавалі па фізічным баўленні часу разам. Да ўсяго — гэта проста і нядорага.

Дакладней, гаворка пра паб-квізы, таму што ладзяцца яны ў розных барах і кафэ. Гэта ўзаемавыгадна для арганізатараў квізаў і ўладальнікаў установаў грамхарчу, якія маюць дадатковую рэкламу сваіх месцаў, калі ідзе анансаванне квіз-гульняў, і прыбытак з замоваў ежы ды пітва іх удзельнікаў.



Калі вы маеце здольнасць арганізоўваць мерапрыемствы і любіце інтэлектуальныя забаўкі, то чаму б не толькі не паўдзельнічаць у квізах, але і заснаваць свой, каб што-нішто зарабляць!?

Прызы за перамогі ў квізах чыста сімвалічныя. Скажам, вялізная бутэлька шампанскага на каманду-пераможцу. А ў якасці арганізатара квізаў вы можаце мець дадатковы заробак або сур'ёзны даход, калі ваша справа маштабна раскруціцца. Напрыклад, як квіз-гульня «Мазгабойня». У яе гуляюць ужо ў прыкладна 200 гарадах з 15 краінаў, а прыдумалі і запусцілі беларусы. Ідэю падглядзелі ў Літве, калі вучыліся там у Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, і калі там была хваля квіз-гульняў. Сустваральнік Аляксандр Ханін акурат і раіць тым, хто дбае пра паспяховую кар'еру, рабіць тое, што прыносіць задавальненне, і болей падарожнічаць, каб падглядаць падчас іх розныя цікавосткі.

«Мазгабойня», якая пачыналася як забаўка для кола знаёмых, цяпер — сур'ёзны бізнес, які прадае франшызы коштам у некалькі тысяч долараў. Апрача гэтага, пакупнікі франшызы пералічваюць пэўную суму ад прыбытку: яна, як і кошт франшызы, залежыць ад колькасці насельніцтва горада, у якім будзе праводзіцца квіз на ўзор «Мазгайбойні». Так што можаце паспрабаваць сваю віктарынную справу не з нуля, а такім чынам. Прадавец франшызы, натуральна, аказвае самае разнастайнае спрыянне — у тым ліку дае базу пытанняў, якія будуць задавацца ўдзельнікам квізу.

Якой можа быць выручка? Залежыць ад маштабавання бізнесу. Зразумела, што квіз у адным горадзе вялікіх грошай не прынясе. Напрыклад, у Мінску дзейнічаюць больш за дзясятак разнастайных квіз-гульняў, якія ладзяць па некалькі мерапрыемстваў на месяц. Кошт — 6–8 рублёў з аднаго ўдзельніка. Дарэчы, паспрабаваць увайсці ў гэты бізнес можна, акрамя таго, што пагуляць самому, праз складанне пытанняў. Яны заўсёды запатрабаваныя. За адно пытанне не на веды, а так званыя раскручвальныя, на логіку, можна атрымаць 1–3 долары. Такіх прапаноў у інтэрнэце хапае. Ну і адразу прыкідвайце гэта ў выдаткі як патэнцыйны арганізатар квізаў.

Паколькі квізавая канкурэнцыя дастаткова вялікая, рыхтуйце розныя «фішачкі». Самае простае — тэматычныя гульні. Заўжды знойдзецца пэўная колькасць аматараў і фанатаў чагосьці. Таксама варыянт — прапанаваць такі спосаб баўлення часу буйным фірмам у якасці карпаратыўнага адпачынку. Зрэшты, існыя квізы таксама будуць круціцца ў розных кірунках, у тым ліку трэндавых. Так, квізы не маглі не адрэагаваць на беларусізацыю. Тая самая «Мазгабойня» ладзіла беларускамоўную віктарыну да ўгодак БНР. Існуюць і цалкам беларускамоўныя квізы — напрыклад, Беларуская інтэлектуальная гульня. Так што шукайце і абірайце, каб проста пагуляць ці прыгледзецца да гэтага прыемна-карыснага бізнесу. Дарэчы, у інтэрнэце квізы прысутнічаюць пераважна ў сацсетцы «ВКонтакте».

## Збяры «настолку»

Яшчэ адзін від бізнесу, які прадае спажыўцам прыемнае з карысным і недарагі для распачынання, — выраб і продаж настольных гульняў. Яны таксама перажываюць хвалю папулярнасці, у тым ліку беларускамоўныя. Бярыце прыклад з гульні «Паўстанцы», якую яшчэ ў 2013 годзе прыдумала і выпусціла гродзенская сям'я Янкоўскіх да 150-годдзя паўстання Кастуся Каліноўскага. Сцэнар падобны да «Мафіі»: з дапамогай картак гульцы размяркоўваюцца па ролях, задача — вызначыць Каліноўскага, Мураўёва-вешальніка і так далей. Цяпер рыхтуецца выпуск абноўленай версіі гістарычнай забаўкі, што выпадкова супала з сёлетнім перапахаваннем паўстанцаў у Вільні.

Прычым, у распачынанні вы можаце выкарыстоўваць краўдфандынг — грамадскі збор грошай на праект сваёй «настолкі». Атрымаецца знешняя інвестыцыя і заадно перадзамова. Нешта заробіце — і будзеце мець досвед як у прасоўванні прадукцыі, так і ў каштарысным планаванні. Па выніках ужо вырашыце, ці выгарыць гэта як выгадная бізнес-справа. Натуральна, што пры краўдфандынгавым варыянце ваш праект павінен мець пэўную грамадскую значнасць — напрыклад, забаўляльна-адукацыйную. У складаны эканамічны час могуць мець попыт такія гульні, як фінансавыя сімулятары. Але без негатыву, як у «Манаполіі», дзе мэта ўсіх збанкрутаваць і такім чынам перамагчы, а арыентаваныя на тое, каб у змадэляваных сітуацыях стварыць і захаваць капітал.

Ідэальны ж варыянт — распрацаваць «пацігейм» кшталту суперпапулярнай «Уна», каб у вашу гульню бавіўся ўвесь свет. Дапамажыце людзям выдаткаваць свае грошы на добрыя гульні, якія забаўляюць, адукоўваюць і збліжаюць.

# Крывавы Хадж

Алег НОВІКАЎ

**Пяцьдзясят гадоў таму група тэрарыстаў захапіла Вялікую мячэць у Мецы. Гэты малавядомы ў нас эпізод шмат у чым стварыў контуры свету, у якім мы цяпер жывём.**


Фота www.web.de


Фота www.lenta.ru

Нельга без здзіўлення глядзець на здымкі маладога Усамы бен Ладэна, зробленыя ў сярэдзіне 1970-х гадоў. З выяваў глядзіць не барадаты фанатык, а юнак, апрануты па заходнім фасоне. На тых фотках — у джынсах і цішотках і іншыя чальцы яго сям'і. Усё таму, што Саудаўская Аравія ў 1970-я гады была трошкі іншай, чым сёння, краінай. Так, іслам адыгрываў значную ролю ў жыцці грамадства, аднак адначасова назіраўся працэс вестэрнізацыі часткі насельніцтва — вынік ператварэння краіны ў самага буйнога на планеце экспарцёра нафты, што, у сваю чаргу, выклікала шмат кантактаў з заходнікамі і імпарт заходняга ладу жыцця.

Усё кардынальна змянілася 20 лістапада 1979 года, калі група фанатыкаў атакавала Вялікую мячэць. Гэта былі чальцы падпольнага руху, які патаемна сфарміраваўся напрыканцы 1970-х. Драйверам для сыходу ў падполле стала думка, што кароль Халід здрадзіў запаветам вахабізму і ператварыўся ў амерыканскую марыянетку. Імпэту надаваў і нядаўні поспех ісламскай рэвалюцыі ў суседнім Іране. Той факт, што лідар тэрарыстаў Джухайман аль-Утайбі быў правадыром аднаго з кланаў, дазволіў рэкрутаваць у групу каля тысячы чалавек, у тым ліку жанчын і дзяцей.

Тое, што мэтай атакі тэрарыстаў была абраная Мекка, цалкам лагічна: кантроль над мусульманскай святыняй надаваў легітымнасць каралеўскаму рэжыму. Не выпадковай была і дата атакі — 20 лістапада. На гэты дзень прыходзіўся пачатак новага ісламскага стагоддзя, калі, паводле паданняў, на зямлю мусіў прыйсці Махдзі — выратавальнік.

Менавіта ў якасці Махдзі прадставіў сябе Джухайман аль-Утайбі пасля таго, як а пятай ранку яго атрадам быў захоплены комплекс. На момант атакі ў квартале знаходзілася каля 50 тысяч пілігрымаў. Некаторых з іх (прыкладна шэсць тысяч чалавек) тэрарысты ўзялі ў закладнікі, з якіх частку выкарысталі як «жывы шчыт» для абароны захопленых аб'ектаў. Пасля захопу Махдзі агучыў свае патрабаванні: адстаўка караля як здрадніка вучэння вахабітаў і перадача ўлады яму.

Неадкладна ўся тэлефонная і тэлеграфная сувязь Саудаўскай Аравіі са знешнім светам была перапыненая. Вестка аб захопе Вялікай мячэці ні пры якіх абставінах не павінна была пакінуць каралеўства. Аднак таямніцу захаваць не атрымалася. Шыіты на ўсходзе краіны ўзнялі паўстанне. Вашынгтон адправіў у рэгіён дадатковы флот. Іран заклікаў мусульман падтрымаць выступ аль-Утайбі, атакаваўшы амерыканскія пасольствы па месцы прапіскі. Паўстанню хасу дапамог і першы няўдалы штурм комплексу, які баявікі лёгка адбілі.

Рэжым адчуваў сябе вельмі няўтульна. Пераламіць сітуацыю дапамагла адна дэталь. Святое пісанне забараняе любы гвалт у святым комплексе (нельга было нават выдзіраць пустазелле з глебы). З гэтай прычыны святары і вернікі ўстрымаліся ад падтрымкі спробы перавароту. Яна была асуджаная асаблівай фетвай.

**Толькі зараз Эр-Рыяд пачынае адыходзіць ад стратэгіі, якой кіраваўся пасля захопу Меккі. Прынамсі, у 2017 годзе адзін з мясцовых прынцаў прызнаў, што пасля 1979-га краіна кіравалася «дэканструктыўнымі ідэямі»**

Адначасова ішла падрыхтоўка да новага штурму. Паколькі сваіх спецыялістаў у Саудаўскай Аравіі не было, папрасілі дапамогу ў замежжы. Францыя, Злучаныя Штаты, Пакістан тэрмінова даслалі свае спецфарміраванні, з якімі ўзніклі праблемы: толькі прававерныя маюць права знаходзіцца ў Мецы. Частцы французаў давялося прыняць іслам. Падчас новага штурму 28 лістапада кіраўнік тэрарыстаў быў забіты, што зламала дух абаронцаў. Яны схаваліся ў катакомбах, адкуль іх з дапамогай газу да 4 снежня выкурыў усё той жа французскі спецназ. Усяго за час захопу комплексу было забіта каля тысячы чалавек. Яшчэ 63 прыхільнікі псеўда-Махдзі праз нейкі час былі пакараныя — ім адсеклі галовы.

Падавалася, што мела месца рашучая міжнародная перамога над тэрарызмам. Аднак у перспектыве ўсё аказалася інакш. Кароль Халід быў настолькі перапалоханы падзеямі 1979-га, што пачаў флірт з вахабітамі. Хутка кабетам забаранілі наведваць кіно, тэатры, грамадскія імпрэзы. У адукацыі была пашыраная праграма вывучэння рэлігіі. Рэлігійнай паліцыі Mutawwa надаваліся новыя паўнамоцтвы.

Аднак значна горш было тое, што Саудаўская Аравія таксама вырашыла падтрымліваць імідж самай паслядоўнай ісламскай дзяржавы ў свеце. Пасля ўваходу савецкай арміі ў Афганістан у 1979 годзе саудыты стваралі мільярдныя фонды для падтрымкі афганскіх інсургентаў. Пры гэтым вялікая ўвага надавалася таму, каб афганскі супраціў меў не дэмакратычны, а выразны рэлігійны складнік. За кошт грошай з Аравіі з часам паўстаў рух Талібан, а пасля — групоўка бен Ладэна, які напачатку стагоддзя аддала загад пачаць падрыхтоўку да тэрарыстычнай атакі на Злучаныя Штаты ў верасні 2001-га. І калі з Аль-Каідай неяк разабраліся, то Талібан ужо 20 гадоў застаецца нявырашанай праблемай для Злучаных Штатаў. Прычым цяпер «студэнты» пачалі выходзіць на паўднёвыя рубяжы Цэнтральнай Азіі.

Толькі зараз Эр-Рыяд пачынае адыходзіць ад стратэгіі, якой кіраваўся пасля захопу Меккі. Прынамсі, у 2017 годзе адзін з мясцовых прынцаў прызнаў, што пасля 1979-га краіна кіравалася «дэканструктыўнымі ідэямі». Аднак адмовіцца ад спадчыны будзе няпроста. Усяго праз пару месяцаў пасля таго выступу стала вядома пра арышт аднаго з кіраўнікоў мясцовага МУС, які планаваў паўтарыць атаку на Вялікую мячэць.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Бітва за прыбіральні

Калі верыць брытанскаму таблоіду Mail on Sunday, у школах краіны склалася нездаровая атмасфера. Усё з-за ідэі аб'яднаць жаночыя і мужчынскія прыбіральні ў так званыя «нейтральныя», якія таксама называюць unisex. З'яўленне «нейтральных прыбіральняў» стала следствам кампаніі арганізацый па абароне правоў сексуальных меншасцяў. На іх думку, маладыя трансгендары адчуваюць дыскамфорт з-за адсутнасці ў школах клазетаў, якія прызначаныя для іх катэгорыі. У выніку Мінадукацыі пайшло насустрач актывістам ЛГБТ, ігнаруючы відавочныя наступствы. Педагогі і лекары масава скардзяцца, што школьніцы намагаюцца як мага менш хадзіць у агульныя прыбіральні, што негатыўна адбіваецца на іх псіхалагічным здароўі і нават пагражае ўралагічнымі хваробамі. Як і трэба было чакаць, мелі месца спробы падглядаць у суседнія кабінкі, што скончылася скандалам, адзін з якіх ужо дасягнуў межаў парламенту. Таксама па ўсёй краіне адбываюцца бацькоўскія пратэсты і петыцыйныя кампаніі за спыненне эксперыменту. Цікавая пазіцыя Мінадукацыі, якім, дарэчы, кіруюць кансерватары. Міністр, прызнаючы праблему, прапануе школам адкрываць асобныя прыбіральні для школьніц, не зачыняючы пры гэтым unisex-прыбіральні.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Джокеры атакуюць!

Спраўдзіўся прагноз псіхолагаў і культуролагаў, якія абяцалі хуткае з'яўленне ў грамадстве тых, хто будзе пераймаць стыль героя папулярнага фільма «Джокер». Стужка, як вядома, распавядае пра няўдачніка, які ў выніку кампенсуе свае комплексы за кошт злачынстваў і антысацыяльных учынкаў пад маскай блазна. Псіхалагічныя якасці персанажа, як адзначалі спецыялісты, вельмі блізкія велізарнай колькасці сучаснікаў, для якіх учынкі Джокера стануць своеасаблівым рэцэптам лекавання ад адчужэння. З'явіліся Джокеры і на нашых абшарах. Пакуль найбольш гучна заявіў пра сябе адэскі варыянт. Прыкладна з лістапада ў горадзе пад маскай Джокера дзейнічае ананімны працаўнік кіеўскага рэжыму. Найбольш гучнай акцыяй мсціўца стаў акт знішчэння памятнай дошкі чалавеку, які загінуў 2 траўня 2014 года ў сутыкненнях з актывістамі антымайдану. Нягледзячы на відэазапіс, знайсці вандала-Джокера паліцыі не ўдалося, хаця ў злачынцы ёсць яскравая прыкмета — ён кульгае. Нацыянал-радыкалы былі раз'юшаныя непрафесіяналізмам следчых і заявілі, што гатовыя выплаціць 100 тысяч грыўняў (прыкладна 4 тысячы долараў) таму, хто дапаможа знайсці таго Джокера.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІТАЛІЯ. Рыхтуйцеся здаваць «кліматазнаўства»

Італія стала першай у свеце краінай, дзе ў школах у рамках абавязковай праграмы будуць вывучаць прадмет «кліматычныя даследаванні». Маладых італьянцаў плануюць вучыць прычынам змены клімату і спосабам барацьбы з гэтай з'явай. Таксама ім давядзецца вызубрыць 17 мэтаў ААН у галіне ўстойлівага развіцця. Усяго на новы прадмет будзе выдаткаваны адзін урок на тыдні, але гэтым кліматычная тэма не абмяжуецца. Пад тэму глабальнага пацяплення таксама збіраюцца адаптаваць задачы ў матэматыцы і геаграфіі. Першыя заняткі па новым прадмеце пачнуць выкладацца ў верасні наступнага года, з пачаткам навучальнага сезону. Італьянскімі інавацыямі ў сферы адукацыі ўжо цікавяцца ў Германіі і Францыі. Зрэшты, магчыма, неўзабаве многае зменіцца. Ідэя наконт выкладання дзецям праблемаў клімату — прадукт лобі левапапулісцкай партыі «Рух пяці зорак», якая ўваходзіць ва ўрад, пазіцыі якой вельмі слабыя. Не выключана, што да восені 2020-га да ўлады ў Італіі вернуцца правыя, якія больш скептычна ставяцца да экалагічнай праблематыкі.

**Паводле італьянскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Падаруй сабе падарунак ад прэзідэнта

Аказваецца, свае «Дажынкі» ёсць і ў Туркменістане. Праўда, называюцца яны «Свята ўраджаю» і святкуюцца з прычыны заканчэння збору бавоўны. А вось цырымонія раздачы перадавікам прызоў ад кіраўніка дзяржавы і падрыхтоўка да яе ў Туркменістане трошкі іншыя. У адным з вілаятаў (па-туркменску — у вобласці) сялян абавязалі саміх набыць тэлевізары, якія пасля ім уручылі ад імя прэзідэнта Гурбангулы Бердымухамедава. Па словах крыніц, мясцовым уладам даручылі падарыць падарункі камбайнерам, якія выканалі план па зборы бавоўны. Але чыноўнікі абавязалі вяскоўцаў саміх купіць тэлевізары і прывезці з сабою ў той дзень, калі свята будзе здымаць тэлебачанне. Праўда, не абышлося без цяжкасцяў. Некаторыя героі ўборачнай заявілі, што іх сямейны бюджэт ніяк не вытрымае такой пакупкі. Тады ім дазволілі спакаваць у скрыні для падарункаў свае старыя тэлевізары. Яны і былі ім «падораныя» пазней ад імя Бердымухамедава перад тэлекамерамі. Радасць сялян ад прэзідэнцкага падарунка, натуральна, не мела межаў.

**Паводле туркменскай прэсы**

# «Рыжскі кардон»

## Як Масква, Лондан і польскі эмігранцкі ўрад змагаліся за ўсходнюю мяжу



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У Беластоку 29 кастрычніка 1939 года была прынятая Дэкларацыя Беларускага народнага сходу па пытанні ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад БССР. Паводле гэтага дакумента Беларусь павінна была аб'яднацца пасля амаль дваццаці гадоў жыцця ў фармаце частак розных цывілізацый. Аднак беларусам было рана радавацца.**

### Падтрымаць д’ябла

У 1940–1941 гадах даваенная мяжа ператварылася ў «зону загароды», якую працягвалі ахоўваць савецкія памежнікі. У снежні 1940 года кіраўнік НКУС СССР Лаўрэнцій Берыя «прасіў» Сталіна захаваць даваенную мяжу ў сувязі з тым, што «тэрыторыя заходніх абласцей Украіны і Беларусі дасюль не ачышчаная ад антысавецкіх і варожых элементаў». У чэрвені 1941 года Гітлер напаў на свайго былога хаўрусніка, а ўжо праз месяц баёў немцы былі далёка на ўсходзе ад былой «рыжскай мяжы».

Савецкі Саюз апынуўся ў сітуацыі, калі неабходна было шукаць хаўруснікаў. Вялікабрытанія і ЗША таксама не жадалі губляць усходні тэатр вайсковых дзеянняў супраць нацыстаў. Асаблівую ролю тут адыгрываў польскі фактар — эміграцкі ўрад Польшчы ў Лондане. Апошні імкнуўся ўратаваць сваіх грамадзян з рук сталінскай рэпрэсіўнай сістэмы, а таксама... вярнуць усходнія межы Другой Рэчы Паспалітай.

Аднак Вялікабрытанія вельмі асцярожна ставілася да гэтага пытання. Пасля нападу Германіі на СССР прэм’ер-міністр Злучанага Каралеўства Уінстан Чэрчыль заявіў: «Нават калі б Гітлер напаў на пекла, я б намагаўся натхніць Палату Абшчын падтрымаць д’ябла». Польскі прэм’ер-міністр Уладзіслаў Сікорскі выказваў надзею, што Савецкі Саюз скасуе ўсе пагадненні з Трэцім Рэйхам (у тым ліку пра падзел тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай), вызваліць усіх польскіх грамадзян, а таксама прызнае даваенную мяжу. Польскія палітыкі таксама спрабавалі змусіць брытанцаў, каб тыя выказаліся за вяртанне польскіх даваенных усходніх межаў. Але савецкі бок вуснамі амбасадара Івана Майскага адказваў брытанцам і палякам, што выступае за «усталяванне мяжы па этнічным прынцыпе». Пры гэтым бальшавіцкі амбасадар не выключаў, што некаторыя тэрыторыі, якія ўвайшлі ў склад СССР у верасні 1939 года, могуць быць аддадзеныя Польшчы.

Прадстаўнікі польскага эміграцкага ўраду працягвалі пераконваць брытанскі Foreign Office у тым, што «Савецкая Расія» апынулася сярод антыгітлераўскай кааліцыі выпадкова. 30 ліпеня 1941 года ў будынку МЗС Вялікабрытаніі прэм’ер Уладзіслаў Сікорскі і савецкі амбасадар Іван Майскі падпісалі дамову аб аднаўленні дыпламатычных стасункаў паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. Паводле гэтага дакумента, савецкі бок дэнансаваў усе дамовы з нацыстамі, а таксама абвясціў «амністыю» ўсім польскім грамадзянам, якія знаходзіліся ў савецкіх лагерах, турмах і спецпасяленнях. З гэтых людзей планавалася сфарміраваць польскае войска. Сікорскаму прыйшлося саступіць у спрэчцы пра даваенную мяжу на карысць ратавання тысяч польскіх вязняў — жыццё людзей было важнейшае за палітычныя мэты.



На савецка-польскай мяжы ў Коласава

### Тэгеранскі варыянт

У снежні 1941 года брытанскі міністр замежных спраў Энтані Ідан спрабаваў абмеркаваць у Крамлі пытанне польскіх усходніх межаў, але размова не мела вынікаў. Адзначым, што час размоў быў карысным для палякаў — нямецкія войскі знаходзіліся пад Масквой, аднак Сталін «трымаўся ўпэўнена» і не ішоў на саступкі. Дарэчы, тады ж бакі пачалі абмяркоўваць магчымасць перадачы Польшчы пасля вайны нямецкіх тэрыторый. Пры гэтым бальшавікі актыўна выкарыстоўвалі формулу «лініі Керзана» ў якасці будучай усходняй мяжы Польшчы.

У 1943 годзе немцы знайшлі парэшткі польскіх афіцэраў у катынскім лесе, што прывяло да разрыву дыпламатычных стасункаў паміж СССР і эміграцкім урадам Польшчы. Тады ж Іосіф Сталін канчаткова прыйшоў да высновы стварэння «сацыялістычнай Польшчы» з новымі межамі. Падчас канферэнцыі хаўруснікаў па антыгітлераўскай кааліцыі ў Тэгеране 28 лістапада — 1 снежня 1943 года Вялікабрытанія, ЗША і СССР упэўнена выказаліся за «лінію Керзана». Пры гэтым брытанцы працягвалі запэўніваць польскі бок, што тэрыторыя па Одэры значна больш прывабныя, чым палескія багна, нават з Вільняй і Львовам. Уінстан Чэрчыль у адной з тэлеграм амерыканскаму прэзідэнту Франкліну Рузвельту адзначаў: «Гэта дае палякам жыццёвую прастору ў больш за трыста квадратных міль і дзвесце пяцьдзясят міль балтыйскага ўзбярэжжа».

### Дэмаркацыйная лінія ад Ракава да Беластока

Між тым, 3 студзеня 1944 года савецкія войскі перайшлі даваенны савецка-польскі кардон на тэрыторыі Украіны. 11 студзеня 1944 года Крэмль заявіў, што «не лічыць нязменнымі межы 1939 года». «У гэтыя межы могуць быць унесеныя змены на карысць Польшчы, там, дзе пераважае польскае насельніцтва. У гэтым выпадку савецка-польская мяжа магла б прайсці па так званай лініі Керзана, якая была прынятая ў 1919 годзе Вярхоўным саветам хаўрусных дзяржаў, і якая прадугледжвае ўваход Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі ў склад Савецкага Саюза», — адзначалася ў дакуменце. 20 студзеня 1944 года на сустрэчы з польскімі эміграцкімі палітыкамі Чэрчыль падкрэсліў, што польскі бок павінен пагадзіцца на «лінію Керзана», узамен на што Польшча атрымае тэрыторыі на Захадзе. «Цяжка ўявіць, што Вялікабрытанія распачне вайну супраць Савецкага Саюза з-за ўсходняй мяжы Польшчы. Злучаныя Штаты таксама не будуць гэтага рабіць», — адзначыў брытанскі палітык.

23 студзеня 1944 года польскі эміграцкі ўрад накіраваў Foreign Office ноту, у якой, сярод іншага, палякі пыталі пра гарантыі вяртання эміграцкага ўраду ў Польшчу, эвакуацыю чужых войскаў з польскай тэрыторыі і перадачу ўсёй тэрыторыі Усходняй Прусіі польскай дзяржаве. 4 лютага 1944 года Сталін запатрабаваў, каб польскі эміграцкі ўрад прызнаў «лінію Керзана», а брытанцы аддалі Саветам Кёнігсберг. У адказ прэм’ер польскага эміграцкага ўрада Станіслаў Мікалайчык прапанаваў формулу, паводле якой на тэрыторыі паміж мяжой 1921 года і савецка-германскай мяжой 1941 года стваралася часовая дэмаркацыйная лінія з польскай і савецкай адміністрацыяй. Пры гэтым Вільня і Львоў засталіся б на польскім баку. Акрамя гэтага, палякі не хацелі аддаваць бальшавікам Кёнігсберг.



Малюнак польскага жаўнера з часоў бітвы пад Монтэ-Касіна

### Савецкае войска ідзе на Захад

У траўні 1944 года нямецкія пазіцыі ў Італіі штурмавалі жаўнеры Другога польскага корпуса, які ўваходзіў у склад 8-й брытанскай арміі. Каля 30 працэнтаў жаўнераў гэтага вайсковага злучэння складалі беларусы. Цікава, што на пасведчанні да памятнага знака 5-й крэсавай дывізіі Другога польскага корпуса была выява даваенных межаў Другой Рэчы Паспалітай і надпіс: «Без Вільна і Львова няма Польшчы».

23 чэрвеня 1944 года пачалася Беларуская наступальная аперацыя савецкага войска «Баграціён», і 3 ліпеня 1944 года чырвоны сцяг узняўся над Мінскам. Праз пару дзён чырвонаармейцы перакрочылі даваенную савецка-польскую мяжу ў Беларусі. Фарміраванні Арміі Краёвай былі не ў стане стрымаць савецкі наступ на лініі даваеннага кардона, дый задачы такой не ставілася. 27 ліпеня 1944 года Чырвоная Армія ўвайшла ў Беласток, а праз дзень ад нацыстаў быў вызвалены Брэст. Такім чынам, савецкія войскі дасягнулі лініі савецка-германскай мяжы 1941 года.




У Ялце 4–11 лютага 1945 года адбылася канферэнцыя краін антыгітлераўскай кааліцыі, падчас якой Уінстан Чэрчыль чарговым разам выступіў у падтрымку савецкай прапановы пра мяжу з Польшчай па «лініі Керзана». На прапанову Франкліна Рузвельта аддаць Польшчы Львоў і Львоўскую акругу, Сталін адзначыў, што «лінію Керзана» стварылі Керзан, Клемансо і амерыканцы ў 1918–1919 гадах. «Расію тады не запрашалі, і яна не ўдзельнічала. План гэты быў прыняты насуперак волі расіян і на падставе этнічных дадзеных. Ленін быў супраць яго. Ён не хацеў аддаваць Беласток і Беластоцкую акругу палякам. [...] Мы адыходзім ад пазіцыі Леніна. Што на гэта скажуць рускія і ўкраінцы? Што Сталін і Молатаў горш абараняюць Расію, чым Керзан і Клемансо?» Урэшце, падчас пятага пленарнага пасяджэння Ялцінскай канферэнцыі яе ўдзельнікі вырашылі, што ўсходняя мяжа Польшчы будзе праходзіць па «лініі Керзана», пры гэтым у пэўных раёнах адыходзіць ад яе на 5–8 кіламетраў на карысць Польшчы. Пазней гэта рашэнне было замацаванае на Патсдамскай канферэнцыі ў 1945 годзе і ў дамове паміж Савецкім Саюзам і Часовым урадам нацыянальнага адзінства Польшчы 16 жніўня 1945 года.

Як і ў верасні 1939 года, так і 1944–1945 гадах у Крамлі не думалі пра беларусаў і іх этнічныя тэрыторыі. Тэрыторыя Беларусі была разменнай манетай у геапалітычных гульнях спачатку Гітлера і Сталіна, а потым заходніх хаўруснікаў і Крамля. Ахвярамі тых падзелаў сталі і мільёны палякаў, якія вымушаны былі пакідаць родныя дамы і маёмасць і бегчы з імперыі Сталіна. Гэтыя людзі добра ведалі, што бальшавікам веры няма.

# Прэм'ера Горвата

Марыя МАРТЫСЕВІЧ

**У чэрвені — жніўні 2019 года я працавала ў журы Літаратурнай прэміі Ежы Гедройца. Лета выдалася гарачым, вясковым, насычаным падарожжамі і напоўненым прозай, выдадзенай летась па-беларуску. Уражанні запісваліся ў чытацкі дзённік, які мусіў заставацца ў шуфлядзе, пакуль не будуць абвешчаныя лаўрэаты.**

Лаўрэатамі сёлета сталіся Алена Брава з раманам «Садомская яблыня» (3 месца), Міхал Андрасюк з раманам «Поўня» (2 месца) і Ілля Сін з раманам «Libido» (абсалютны пераможца).

Цяпер, калі складзеныя ўсе рэйтынгі і раздадзеныя ўсе рэгаліі, я гатовая падзяліцца ўражаннямі ад прачытанага.

Пачынаю з кнігі, якая падчас чытання ў рэжыме «не сабе, а людзям» выклікала ў мяне як у сяброўкі журы невырашальную дылему. Якую, мусіць, адчуў і сам аўтар, бо скарыстаўся новаўвядзеннем Прэміі Гедройца і самаадвёўся ад удзелу ў прэміяльнай гонцы. За што яму, па шчырасці, вялікі дзякуй.

У шостым класе настаўніца рускай літаратуры сказала нам, што мы цяпер не нейкі там пяты клас, а таму, паводле метадычак, мусім адвучвацца казаць аб прачытаным: «кніга мне спадабалася» або «кніга мне не спадабалася». Надышоў час вучыцца літаратурнаму аналізу. Гэтак ад веку 12 гадоў я пазбягала публічна любіць ці ненавідзець кнігі, пакуль не трапіла ў Беларускі Калегіюм. Дзе Максім Жбанкоў сказаў нам, што ўсё лухта: «спадабалася — не спадабалася» — асноўны крытэр любога крытыка культуры.

«Прэм'ера» Андрэя Горвата дастаткова іранічная і сюррэалістычная, каб задаволіць мой густ, а вокамгненнасць, з якой Прудок змяняецца Берлінам, Амстэрдамам ці падмосткамі Купалаўскага — абсалютна ў маім тэмпе. Прачытала ў кагосьці параўнанне другой кнігі Горвата з палотнамі Шагала, калі ў краявіды Парыжа ўплеценыя віцебскія хаткі. Яно абсалютна дакладнае.

Спадабалася і тое, што пісьменнік разбівае лірычнага героя на «аўтара» і «персанажа», адзяляючы іх адно ад аднога, як жаўток ад бялка шкарлупінкамі яйка. Плюс, відавочна іранізуючы з нейкіх невядомых мне крытычных закідаў адносна першай кнігі, уклейвае ў другую наўмысна неакрэслены жаночы вобраз, які называе «кардонным».

Спадабалася, аднак, толькі розумам. Прыём цікавы і празрысты, але калі ў першай кнізе мы мелі жывога — неістотна, аўтара ці персанажа — то ў другой у гэтым плане ўсё мёртва і глуха.

Параўноўваць розныя кнігі аднаго аўтара не зусім карэктна, а ў кантэксце Прэміі Гедройца — і супраць прынцыпаў, але з Горватам гэтага немагчыма пазбегнуць. Ад «Прэм'еры» ўва мне прачнулася злосць школьнай выдатніцы, якая не можа напісаць кантрольную на «дзясятку», бо настаўніца перамудрыла з заданнямі. Я прачытала «Радзіва Прудок», але ўсё адно пачувалася абдзеленай, бо не глядзела спектакль паводле кнігі, пастаноўку якога нібыта апісвае аўтар. «Прэм'ера» атрымалася рэччу ў сабе, феноменам, замкнёным у часе і прасторы, увязненым у кантэксце. Проза Горвата мае ўсе прыкметы тусовачнай літаратуры, створанай для асяроддзя, якое нумаруе анекдоты і смяецца пасля слова «каза». Чалавек, які выпадкова купіць «Прэм'еру», не ведаючы нічога пра першую кнігу, можа не зразумець, дзе тут каза і калі смяяцца. І гэта сумна з гледзішча нашага нованароджанага кніжнага рынку, які чакае супер-новую зорку, нібы старазапаветныя габрэі Месію.

Другая кніга Горвата — канстатацыя факту, што цэнтры прыцягнення ў літаратурным жыцці — у нас па-ранейшаму аўтары, а не выдавецтвы. Гэта, дарэчы, някепска для літаратуры як абсалюту, таму што няма нічога больш сумнага, чым таленты, пажэртыя кніжнай камерцыяй. Што было б, калі б Горват дэбютаваў у Расіі ці Польшчы? Інфа 100%: выдавец бы не даў яму забіць фэйсбук і пераключыцца з празаічных карацелек на буйнейшы фармат. Не даў бы зняць руку з пульсу мэтавай аўдыторыі. Грабі са свайго Прудка ў Варшаву, Парыж, Вільню — хоць у Антарктыду, сказаў бы гэты дзялок, але толькі рабі, як было. Таму што гэта ўжо спрацавала.

Андрэй Горват — чалавек і параход: кніга, спектакль, медыяканал, рыэліці-шоу і крафтавае піва, якое нехта прысвяціў ягонай казе. Андрэй Горват — брэнд, і гэта выклікае непадробны інтарэс, пачуццё гонару, жаданне патроліць або ўзяць аўтограф — хто на што вучыўся. І кніга тут храналагічна далёка не першы элемент іміджу, але элемент скрайне неабходны. Кніга павінна быць. Кніга ёсць нават у Ірыны Кабасакал — і пытанне часу, калі яна з'явіцца ў Люсі Лушчык. Якая даўно ўжо Люцыя Герашчанка, але каго тое хвалюе, — і гэта лішняя ілюстрацыя праблемы Горвата-селебрыці. Як «Марыя Мартысевіч» я цалкам разумею «Андрэя Горвата», але як Марыйка магу прадбачыць, што яму яшчэ доўга давядзецца пазбаўляцца ад свайго Эдзічкі — Андрусіка Іванавіча. І няясна, ці яно наагул трэба.

Але вернемся да кнігі. Калі літаратура — толькі складнік удалага і цэльнага брэнду, то літаратурны аналіз бачыцца тэхнічнай праблемай. Частку нельга разглядаць без цэлага, але калі стаіць задача выставіць ацэнку выключна кнізе, без усякага мерчу, ёсць рызыка, што такая ацэнка не будзе аб'ектыўнай. Бо піва «Горватава каза» нельга намінаваць на Прэмію Гедройца.

Зрэшты, галоўнае, што пацвярджае «Прэм'ера»: Горват душэўна піша. І ў тым, як ён піша, адчувальны імпэт пісаць. Застаецца надзея, што калі-небудзь беларусы прагаласуюць за тое, каб у космас у беларускай ракеце паляцела менавіта кніга Андрэя Горвата — і гэта нават будзе не «Радзіва».

На развітанне — тусовачны лімерык. Вы ведаеце, пасля якога слова смяяцца.

*Малады літаратар з Прудка*
*Абяцаў нам: ні дня без радка.*
*Ды радкі піша ў .doc,*
*І Парыж — не Прудок*
*Тчэ, казы не даіўшы, рука.*

# Сіні раман

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**У 2018 годзе Зміцер Вішнёў апублікаваў свой не зусім раман ці антыраман «Калі прыгледзецца — Марс сіні». Раман, які варта чытаць, узбраўшыся на падваконне і схіліўшы галаву да шкла.**




Гэта тое чытво, якое не ідзе з першага навару — да яго вяртаешся ўпарта яшчэ і яшчэ — толькі тады твор прымае. І гэты твор варта чытаць як набор гісторыек і кур'ёзных, часам абсурдысцкіх цытатак. З гэтым творам Вішнёва трэба быць акуратным: вы нібыта з разбегу забягаеце ў кветкавы рай і ўздымаеце хмаркі кветкавага пылку. Супакойцеся: паступова кветкавы пылок асядае — і вам пачынае смакаваць. Так прыблізна ў мяне было з Рычардасам Гавялісам, так сталася з творам Зміцера Вішнёва. Дарэчы, раманы «Калі прыгледзецца — Марс сіні» і «Віленскі покер» у нечым вельмі родныя: тыя ж ухілы ад класічнасці, а часам папросту ад вядомшчыны, поп-культуры і поп-літаратуры, тыя ж завуаляваныя сваім улюбёным местам — Менску і Вільні, тая ж філасафічнасць і кплівасць з усяго, а перадусім з саміх сябе, а яшчэ тыя ж мазаічнасць вобразаў, тэмаў, скокі і пункцірнасць сюжэту.

Чытаючы Вішнёва, я ўвесь час заўважаў яшчэ адно падабенства паміж ягоным тэкстам і тэкстам слыннага летувіса: схаваная сацыяльшчына, якой звычайна так унікаў антыраман у Францыі, і без якой ніяк не абысціся ў нас. А яшчэ абодва вельмі рамантычныя, лірычныя: так, напрыклад, пасаж Зміцера пра дождж і як «ён супакойвае нервы, абараняе ад варожага свету, змывае ўсіх ворагаў і ўвогуле ўвесь негатыў» — якраз з тых, які канчаткова шармуе і ўлагоджвае чытача.

Зрэшты, абодва аўтары праз няпростую манеру пісьма закранаюць светапоглядныя, часам балючыя пытанні адпаведна летувіскай і беларускай ідэнтычнасці. Так, у Зміцеравым сінім рамане безупынку вядуцца размовы, а часам і маналогі адэптаў савецчыны і незалежнікаў — да іх далучаюцца і прасталыткі, і наркаманы, і алкаголікі.

У тэксце паўсюль бачыцца след мастака-абстракцыяніста: раман напісаны, бы намаляваны ў сініх тонах. На жаль, сярод чытацтва ёсць такія, хто хуценька прамінае ля такой карціны і жадае слінай нелюбові і неразумення запырскаць твор: так, адна беларуска Вільні набыла раман Зміцера, а потым неяк пад сакрэтам сказала мне, што гэта — не сіні, а сінюшчы раман. Шкада, што такое прызнанне аб непрачытанай кнізе часта дамінуе і ў нас, у выніку твор застаецца наводшыбе, на бяспечнай дыстанцыі... Але ёсць такія, хто паступова адкрываюць, любуюцца і прызнаюць авангарднасць, мастацкую смеласць і ўбудычынюбегласць рэдкага твору беларускай літаратуры. Крыху елка, што конкурсы і прэміі абмінулі ўвагай шматабяцальны твор, хоць так часта здараецца ў сусветнай практыцы, так часта было з беларускімі творамі, сталымі прызнанымі з крыўдным спазненнем. І потым сам аўтар скептычна ставіцца да прэміяў, бо і героі сіняга раману кажуць пра тое, што «прэміі проста ўплываюць на выбар пакупнікоў».

«Калі прыгледзецца — Марс сіні» — твор, да якога прыглядаюцца доўга і падазрона, у тым ліку крытыкі, накшталт крытыкесы з раману, якая расчаравалася ў літаратурным працэсе. Сам аўтар у працэсе не расчараваны, хоць і бачна, як часам няспеласць чытацтва і крытыкаў кідаюць яго ў роспач. Будзем спадзявацца на творчы працяг аўтара і на тое, што ён не перакінецца на пісанне кулінарных кніг і рэцэптаў.

Зрэшты, мова твору заслугоўвае ўхвалы і заўвагі — Зміцер так хораша і смачна жанглюе ўрбаністычнай размоўнай беларускай мовай, унікаючы русізмаў і зрэдчас дазваляючы сабе трасянкавыя звароты (бо так размаўляюць сучасныя беларусы), што на пэўны час забываеш пра сапраўдную моўную рэчаіснасць радзімы. Аўтар проста і так дакладна фемінізуе, хоць і гуляецца праз сваіх герояў у тое, што не ведае, як цяпер правільна казаць — паэтка, крытыкеса, вагонаважатая, бухгалтарка, знаёміца і падобнае, — не спыняецца перад звышмаралізмам і звышпаліткарэктнасцю, дазваляючы сабе паразважаць як просты чалавек, ці павінна паэтка быць прыгожай ці страшнай, ці з'яўляецца феміністка сябрам чалавека, ці можа хлопец набыць сабе гумавую дзяўчыну... Аўтар стварае цікавыя слоўныя гулянкі кшталту: дождж — Джаконда — ром «Пірат Джон», груз — ты загрыз — гарбуз, інтэлектуал — тэлеканал, інжынер — інжыр, платформа — форма — плафон і г.д. Таму твор да ўсяго становіцца моўнай гулянкай, сацыялінгвістычнай круцігалоўкай.

Сіні колер твору, кнігі, вокладкі, вядома, звязаны з Марсам, з кнігарняй «Марс», але да Марса рэальнага аўтар нас не вязе, не запускае, мы задавольваемся толькі прыгляданнем, угляданнем, але не ў далечы касмічныя, а ў нетры менскія. Менск паступова становіцца таксама сінім. Прыемнае ўражанне, здзіўленне ад таго, што і наш Менск можа быць такім марсіянскім, нягэтульным, дзівосным, казачным. Ведаю, што ў будучыні па Менску будуць ладзіць экскурсіі па мясцовых марсіянскіх маршрутах, апісаных пісьменнікам, як гэта, напрыклад, робяць цяпер у Парыжы па маршрутах Амелі Пулен.

Я не ведаю Зміцера, знаёмы з аўтарам хіба прыхапкам, але праз тое, што я так лёгка ў кнізе спазнаю Менск з ягонымі трамваямі, якія нагадваюць падводныя лодкі, дзівоснымі, барочнымі трамвайніцамі, крамамі, кавярнямі, пад'ездамі, кнігарнямі ў былых тэхнічных ці прамысловых будынках, з ягонымі ўсюлыснымі алкаголікамі і міліцыянтамі, я нібыта шчыльней знаёмлюся адначасова і з аўтарам, і з Менскам. І потым сіні Менск ці Менск у сіняй смузе вядомы мне са студэнцтва, а таму гэта не толькі марсіянскі колер.

Дарэчы, сам аўтар слушна і пастаянна фарбуе менскае паветра ў сіні колер ад «міліцэйскіх мігалак, кэдэбэшнага шэпту, п'яных позяхаў рабочых са шматлікіх заводаў» і параўноўвае яго з атручаным няўлоўным паралітычным газам. Шчырае апісанне сталіцы, прапанаванае аўтарам з такой любоўю і каліўкам суму, мяне задавальняе больш, чымся афіцыйная інфармацыя пра горад-герой: я хутчэй пагаджаюся са Зміцерам і з тым, што цяперашні Менск — горад-прывід, горад-інвалід з шырокімі праспектамі, у якія цяжка верыцца, якія не пераконваюць.

Зрэшты, калі зусім шчыра, то дзякуючы Зміцеру, я ўпершыню прачытаў такую кранальную оду Менску. Дзякуючы Зміцеру я зноў хачу пабачыць Менск, які пакінуў шмат гадоў таму...

# «Паўстань за сябе, Беларусь!»



**Па гарызанталі:** 1. У Беларусі першы матэрыял для пісьма. 5. «Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, ..., што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжо не будзе». З мастацка-публіцыстычнага твора Кастуся Каліноўскага «Ліст з-пад шыбеніцы». Вядома, што па загадзе расійскага ката Мураўёва Кастусь Каліноўскі быў публічна павешаны ў Вільні на плошчы Лукішкі, а парэшткі яго і яго паплечнікаў былі пахаваны на гары Гедыміна. 8. Гумка для сцірання напісанага. 9. Імя старэйшага брата Кастуся, які зрабіў вялікі ўплыў на яго светапогляды. 11. «... без незалежнасці, што банкаўскі кошт без укладу». Аляксандр Васільеў. 14. Буйны почырк старажытных рукапісаў. 15. Марыля ... Прозвішча нявесты Кастуся, якой ён прысвяціў з-за турэмных кратаў верш: «Марыська чарнаброва, галубка мая!». 16. Адвагаю і ... пяройдзеш (прыказка). 17. ... адвагу любіць (прыказка). 18. «Змоўкла наваколле, // ... адгаманіў. // Едзе восень полем, // На рабым кані». З верша Валянціна Рабкевіча «Едзе восень». 21. Калі ў мужыкоў ... гарыць, то і ў паноў дымна (прыказка). 22. Масавы перыядычны друк. 24. Дыван ручной работы. 28. Улада, заснаваная на дэспатызме і самавольстве. 30. Даўно не аранае поле. 31. Месца, дзе зліваюцца два водныя патокі. 32. «Калі ў бой за змаганне з катам // Выйшаў наш адважны ... , // За плячамі ён меў занадта мала вёснаў // і меў Беларусь». З верша Ларысы Геніюш «Кастусь Каліноўскі». 33. Сталіца Венесуэлы.

**Па вертыкалі:** 1. «Гукнуў усёй краіне Кастусь: «Даволі! Народ мы, не быдла, // Паўстань за сябе, ...!» З верша Міколы Ермаловіча «Кастусь Каліноўскі». 2. Старажытныя могілкі ў Вільнюсе, дзе сёлета, у лістападзе, адбудзецца перапахаванне астанкаў Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў па паўстанні. 3. Норма аплаты чаго-небудзь. 4. Невялікая пакаёвая печ. 6. Перавернуты пласт зямлі. 7. Каляндарны час якой-небудзь падзеі. 10. Невялікі лірычны верш. 12. Тое, што і маладзец. 13. ..., мяснік, людаед — агідныя мянушкі расійскага ката Мураў'ёва. 19. «Мужыцкая ...». Першая ў гісторыі Беларусі беларускамоўная газета, рэдактарам якой быў Кастусь Каліноўскі, якая выходзіла ў час паўстання 1863–1864 гадоў. 20. Адзін з псеўданімаў Кастуся Каліноўскага; пад гэтай назвай Аркадзь Куляшоў прысвяціў Кастусю Каліноўскаму сваю паэму. 23. «Русы хлопец золкім світаннем // На высокі ўзышоў ...». З верша Уладзіміра Караткевіча «Нявесце Каліноўскага». 25. Вершаваная страфа з чатырох радкоў. 26. «Дзень Волі — гэта ...! // Гэта нашых сардэц Адраджэнне». З верша Крывіча Вольнага «Дзень Волі». 27. « ... з Літвы». Газета, якая выходзіла ў час паўстання; ініцыятарам яе выпуску быў Кастусь Каліноўскі. 29. Дружнай грамадзе ... не страшны (прыказка).

**Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Расстраляная паэзія» (НЧ №40 ад 25 кастрычніка):**

**Па гарызанталі:** 1. Бунтар. 5. Стол. 7. «Жаданне». 9. Двор. 11. Лістапад. 14. Араты. 15. Янава. 16. Слова. 17. Вочап. 19. Арляняты. 22. Альт. 24. Бярозкі. 25. Душы. 26. Ураган.

**Па вертыкалі:** 1. Барада. 2. Аід. 3. Фарс. 4. Сноп. 6. Лірыка. 8. Маладосць. 10. Верашчака. 12. Дзятва. 13. Тырада. 16. Сцюард. 18. Платон. 20. Ліра. 21. Янка. 23. Вір.

# БагатаДата

**У гэтыя дні багата каго можна ўзгадаць і павіншаваць. А каго і за што канкрэтна — чытайце ў нашым традыцыйным аглядзе.**

## 23 лістапада

**1954.** У вёсцы Вароніна Жыткавіцкага раёна Гомельшчыны нарадзіўся Міхаіл Русы. Быў старшынёй Аграрнай партыі, намеснікам прэм'ер-міністра, міністрам сельскай гаспадаркі. Цяпер — памочнік Лукашэнкі і інспектар па Магілёўшчыне.

**1954.** У вёсцы Жураўцы Валожынскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся Аляксандр Лукашанец. Кіраваў Інстытутам беларускай мовы і літаратуры Акадэміі навук, узначальваў Міжнародны камітэт славістаў.

## 24 лістапада

**1714.** Каля Навагрудку нарадзіўся архітэктар Тамаш Жаброўскі. Асноўныя яго працы: езуіцкі касцёл у Бабруйску, касцёл святога Ігната ў Вільні.

**1889.** У пасёлку Мір Карэліцкага раёна Гродзеншчыны нарадзіўся Залман Шазар (Рубашоў), трэці прэзідэнт Ізраіля.

**1899.** У вёсцы Кляннік (цяпер Смалявіцкі раён Мінскай вобласці) нарадзіўся доктар біялагічных навук Міхаіл Ганчарык. У пачатку 1930-х гадоў кіраваў Інстытутам біялогіі. Арыштаваны ў 1933 годзе па «справе Беларускага нацыянальнага цэнтра»: асуджаны да 10 гадоў лагераў і накіраваны на будоўлю Байкала-Амурскай магістралі. Пасля вызвалення працаваў у Арлоўскай вобласці Расіі, дзе ў 1949-м зноў быў арыштаваны КДБ: высланы на пасяленне ў Краснаярскі край. Распрацаваў там асновы палярнага земляробства. У сярэдзіне 1950-х гадоў вярнуўся ў Беларусь і працаваў у Акадэміі навук.

## 25 лістапада

**Міжнародны дзень барацьбы жанчын за ліквідацыю гвалту ў дачыненні да іх.**

**1914.** У Гомелі нарадзіўся Іван Палякоў, старшыня прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР у 1977–1985 гадах. Таксама быў намеснікам старшыні прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР.

## 26 лістапада

**Сусветны дзень інфармацыі.**

**1934.** У вёсцы Краснае Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся Валянцін Рабцэвіч, археолаг, адзін з заснавальнікаў беларускай нумізматыкі.

## 27 лістапада

**1859.** У Беларусі запрацавала першая тэлеграфная лінія — паміж Мінскам і Бабруйскам.

## 28 лістапада

**Сусветны дзень спачування.**

**1959.** У вёсцы Беражцы Жыткавіцкага раёна нарадзіўся Міхаіл Мароз, які ў 1977 годзе студэнтам на ўборцы бульбы каля вёскі Бурая Дубровенскага раёна на Віцебшчыне вынес з-пад гусеніц трактара снарад часоў Другой сусветнай вайны. Ён выбухнуў, калі хлопец адбег убок ад людзей. Узнагароджаны пасмяротна ордэнам Чырвонай Зоркі. Пра яго подзвіг пісала ўся савецкая прэса. Што праўда, паводле іншай версіі, студэнты знайшлі снарад — і той выбухнуў у руках аднаго з іх. Але начальства вырашыла гісторыю, як гэта часта ў СССР бывала, падкарэктаваць на гераізм у мірны час.

## 29 лістапада

**1859.** У сяле Корніца (цяпер Мазавецкае ваяводства Польшчы) нарадзіўся славіст, пісьменнік, этнограф Мікалай Янчук. Адзін з заснавальнікаў Народнай кансерваторыі ў Маскве, браў удзел у працы камісіі па стварэнні Белдзяржуніверсітэта. Збіраў і апрацоўваў беларускі, літоўскі, польскі, рускі, украінскі музычны фальклор. Аўтар харавога гімну «Не загаснуць зоркі ў небе» на словы Янкі Купалы. Пераклаў шэраг вершаў Купалы для яго першай кнігі па-руску.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1907

Падпісана да друку 22.11.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.